Пераклад Васіля Раманава 2014 год.

Надрукавана: Часопіс Міністэрства Народнай Асветы ліпень 1897.
С.-Пецярбург. Тыпаграфія В. С. Балашава і К˚. Наб. Фантанкі, 95.
(пазначэнне старонак згодна гэтага выдання.)

**Мітрафан Доўнар-Запольскі**

# Заходне-руская вясковая абшчына ў XVI стагоддзі.

У апошні час па пытанню аб вясковай абшчыне ў межах Літоўска-рускай дзяржавы з'явілася ў літаратуры два супрацьлеглыя меркаванні. Праф. Уладзімірскі-Буданаў у вельмі ўдалым сваім артыкуле аб формах сялянскага землеўладання ў літоўска-рускай дзяржаве[1], паказаў на нешматлікія дадзеныя аб вясковай абшчыне, вядомыя із надрукаваных крыніц і прыйшоў да высновы аб існаванні вясковай абшчыны на заходне-рускіх землях. Галоўная аснова заходне-рускай абшчыны – абшчыннае валоданне зямлёй. "Зямля ўсёй вёскі, - кажа паважаны навуковец, - некалі была ў распараджэнні ўсёй вёскі, якая ўжо потым размяркоўвае яе на дворышчы, а некаторыя пакідае ў агульным карыстанні, і што гэта апошняе можа адносіцца не толькі да добраў(лясныя ўваходы, борці, права палявання і інш), але і да распрацаваных дзялянак; распрацоўка робіцца агулам"[2]. У непасрэднай сявязі з вясковай абшчынай знаходзіцца абшчына валасная, таму што "адміністрацыйнае адзінства воласьці складаецца ў дастаткова блізкай сувязі з гаспадарчым і землеўладальніцкім яе значэннем"[3]. Хаця аўтар і прадбачыць пярэчанні, як следства непаўнаты нашых звестак, як пра вясковую так і валасную абшчыну, але тым не менш прыпісвае воласьці шырокае значэнне ў сферы маёмасных інтарэсаў: у ліку валасных прэрэгатыў "важнейшыя адносяцца да размеркавання зямельнай маёмасьці;

-74-

адсутнасьцю звестак цяжка растлумачыць адсутнасць самага інстытуту раз ёсць хаця б і слабыя ўказанні на яго"[4].

Зусім інакш уяўляецца дадзенае пытанне сп. Любаўскаму. Згодна яго меркаванню, "з'явы вясковай і валасной салідарнасьці і нават абшчыннага ўладання некаторымі добрамі і нават ворнай зямлёй тлумачацца і без дапушчэння думкі, што ўся зямля некалі належала ўсёй вёсцы ці воласьці"[5]. Заклапочанасць сялян аб цэласнасьці воласьці, удзел іх у агульных павіннасьцях, з'яўленне цэлых валасьцей на судзе, існаванне абшчынных добраў – усе гэтыя

---

[1]. Кіеўскі зборнік, выдаецца пад рэдакцыяй І. В. Лучыцкага, Кіеў, 1892 г.
[2]. Ibid.,p. 377.
[3]. Ibid., p. 380.
[4]. Ibid., p. 383.
[5]. Абласны падзел, p. 470.

з’явы могуць быць растлумачаны, як “проста суседзкая і павіннасьцевая салідарнасць”. “Што да права вясковых абшчын удзельчаць у размяркаванні свабодных дзялянак, то сп. Уладзімірскі-Буданаў не прыводзіць для свайго выказваня дадзеных крыніц. У актах нам не сустракалася ніякіх прызнакаў гэтага ўдзелу”[6]. Зразумела, што агульнае ўладанне зямлёй з’яўляецца дастаткова важным прызнакам існавання абшчыны. Але і самыя ўпартыя абаронцы абшчыны схільны прызнаваць за галоўны прызнак абшчыннага жыцця не той ці іншы спосаб уладання зямлёй, а сам факт такога валодання, калі абшчына ў адносінах да абшчыннай маёмасці з’яўляецца юрыдычнай асобай[7]. Акрамя сувязі па абшчыннаму валоданню зямлёй (хаця б толькі і ў выглядзе добраў), абшчына аб’яднана цэлым шэрагам разнастайных інтарэсаў матэрыяльных і маральных[8]. Усё гэта ўяўляе адзнакі абшчыннага жыцця.

Але перш чым прыступіць да апісання форм абшчыннага жыцця ў Заходняй Расіі, неабходна паказаць на тое, што даследчыку прыходзіцца назіраць абшчыну ў вельмі неспрыяльных умовах.

Нашы крыніцы – пераважна акты, якія выйшлі із дзяржаўнай канцылярыі. Гэтыя акты рэдка маюць дачыненне да дэталей унутраннага жыцця валаснога жыцця. Але і незалежна ад крыніц сам ход гістарычнага жыцця ў літоўска-рускай дзяржаве складваўся неспрыяльна для свадобнага развіцця абшчынных парадкаў. Першая палавіна XVI ст. – час паступовага запрыгоньвання сялян і развіцця прыгоннага землеўладання



ў сявязі з равіццём шляхецкіх вольнасьцей. Побач з гэтым урад, ды і прыватныя землеўладальнікі ўзмоцнена перабудоўваюць і гарадзкія абшчыны, адрываючы іх ад валасных, і вясковыя на нямецкае права, з якім неразлучна звязвалася і валочная сістэма. Усе гэтыя ўмовы дзейнічалі разбуральна на вясковую абшчыну. Тым не менш, яе наступствы значна больш адчувальныя, чым гэта меркавалася.

У далейшым мы будзем мецць на ўвазе пераважна валасную абшчыну. Праявы абшчыннага жыцця вёскі не вельмі значныя; із крыніц не заўсёды магчыма аддзяліць асобную вёску ад воласьці, як і само разуменне вёскі не адрознівалася такой вызначанасьцю як зараз. У палове XV ст., напрыклад, воласць не была дакладна вызначаным тэрмінам: вялікі князь Казімір дае аднаму земяніну “воласць у Багдановічох сяле” усяго 8 чалавек[9], пры гэтым воласць разумеецца як адна із частак вёскі. Толькі на пачатку XVI ст. тэрміны воласць і вёска набылі больш вызначанае значэнне, калі воласць разумелася як

---

[6]. Ibid., p. 468.

[7]. Кавелін, Абшчыннае ўладанне, pp. 15 і 11.

[8]. Пар., напрыклад, Сакалоўскі, Нарыс гісторыі вясковай абшчыны на поўначы Расіі, С.-Пб., 1877, p. 136.

[9]. Кніга данін вялікага князя Кзіміра, стр. 6, дакументаў выдаваемых мной пры Маскоўскім арх. мін. юст. (у асобных адцісках гэта выданне выйдзе пад загалоўкам “Акты Літоўска-рускай дзяржавы”, т. II. Спасылкі на *першы* том Актаў Літоўска-рускай дзяржавы робяцца на дакументы, выдадзеныя мной у “Чытанях” Грам. Гіст. і Стар. Рас. Так як абодва выданні пабачаць сьвет праз не вельмі вялікі прамежак часу, то лічу больш зручным спасылацца не на лісты рукапісу, а на старонкі абодвух тамоў).

адміністрацыйная адзінка з вядомым цэнтрам – горадам, замкам. Але няма падстаў думаць, што цэнтральны ўрад сам вызначыў геаграфічныя межы валасьцей: ён, бяспрэчна, выкарыстаў ужо існуючае ўладкаванне. Патрэбна таксама ўлічваць, што ў Заходняй Расіі, як і ў Маскоўскай дзяржаве, вёскі былі вельмі малымі: сяльцо часьцей за ўсё складалася з 1-5 дворышч, службаў ці жарэб’еў[10]. У аснове дворышча знаходзіўся сямейна-радавы гурт. Аб’яднанні дворышч і службаў і складалі вясковую ці валасную абшчыну. Але нават і ў палавіне XVI ст. валасныя абшчыны былі невялікімі: Гомельская воласць складалася із 32 вёсак, у якіх было ўсяго 88 службаў ці 202 дымы[11] - велічыня

-76-

цяперашняй не вельмі вялікай вёскі. У Гомельскай валасьці быў адзін яе прадстаўнік – старац. Але часам, хаця вядомая тэрыторыя перад урадам выступае як адна акруга ці воласць, у ёй, аднак, выяўляецца некалькі абшчын са сваімі асобнымі прадстаўнікамі-старцамі. Часам самі ўрадавыя дакументы даюць нагоду думаць, што ў валасьці па некалькі старцаў[12], а із апісанняў Аршанскай валасьці мы даведваемся, напрыклад, што ў кожнай вёсцы, велічынёй каля 20 дымоў, быў старац[13], значыць воласць падзялялася на некалькі вясковых абшчын, якія аб’ядноўваліся ў адну валасную. Са сказанага можна зрабіць праўдападобную выснову, што асяродкам абшчыннага жыцця была не вёска, а воласць[14].

Мы пачнем наша знаёмства з заходне-рускай абшчынай не са станоўчых яе бакоў, а, калі можна так сказаць, з адмоўных. Абшчына ў вывучаемы намі час разбураецца; з вывучэння падстаў яе разбурэння мы і пачнем знаёмства з ею. Барацьба валасьцей з ураднікамі на падаткавай глебе з’яўляецца тым бокам абшчыннага жыцця, які часьцей за ўсё сустракаецца ў нашых крыніцах.

У Падняпроўскіх валасьцях паўсюдна яшчэ на пачатку XVI ст. павіннасьці размяркоўвае скарб не на кожнага плацельшчыка, а на цэлую воласць; воласць ужа самастойна робіць разрубы на асобных плацельшчыкаў. Фінансавыя інтарэсы для валасьці былі самымі злабадзённымі інтарэсамі. Кожны дзяржаўца імкнуўся сабраць з валасьці як мага больш прыбыткаў; побач з падаткамі дзяржаўцы і яго служкі уводзілы навіны. Між іншым дабрабыт валасьці памяншаўся праз дараванне вёсак і дворышч служывым людзям, праз тое, нарэшце, што сяляне адыходзілі із валасьці на землеўладальніцкія землі і інш. у выніку адбываліся сутычкі паміж валасьцю і мясцовым урадам; воласць звярталася да вялікага князя. Мы пакажам некалькі такіх прыкладаў. Гэтыя

---

[10]. Гл. Леантовіч, “Сялянскі двор і інш.” у Часопіс Мін. Нар. Асв. за 1896 г.

[11]. Акты Віл. Арх. Кам., XIII, р. 343.

[12]. Кн. Запісаў Літ., XV, л. 172.

[13]. Доўнар-Запольскі, Акты Літоўска-рускай дзяржавы, т. II, р. 122 і наст.

[14]. Пар. Чычэрын, Дасьледванні па гісторыі рускага права, стр. 26. На поўначы Расіі і ў цяперашні час вясковая абшчына складаецца часам із 20 і больш пасяленняў, такіх жа невялікіх як заходне-рускае сяльцо, пар Сакалоўскі, op. cit., стр. 161 і наст.

прыклады відавочна пакажуць нам, у якіх неспрыяльных умовах знаходзілася валасная абшчына.

Каля 1536 г. вялікаму князю скардзіліся прадстаўнікі Магілёўскай воласьці

-77-

на свайго дзяржаўцу кн. Васіля Янавіча Саломарэцкага. Выявілася, што валашчане магілёўскія заключылі з князем пагадненне аб адбыванні павозкавай павіннасьці: сяляне за вызваленне ад натуральных павіннасьцей абавязаліся плаціць дзяржаўцу штогадовы грашовы ўнёсак. Між іншым, Саломарэцкі прызначыў у воласьці сваіх дзесятнікаў, якія рабуюць сялян, бяруць у іх павозкі, уезды; падаткі з дыму павысіў з 2 гр. у год да 20; дзяржаўца сам прызначыў у воласьці старца, але гэты старац пачаў рабіць усякія “драпежніцтвы” і “цяжкасьці”, так што і валасць апусьцела. Бірчыя сабралі вялікую даніну, а між іншым не далі воласьці справаздачу, “дзе оныя пянезі, што ў іх выбіралі, абярнулі”. Людзі пачалі разыходзіцца з воласьці. Гаспадар патрабуе, каб дзяржаўца “ўчыніў справядлівасць ва ўсіх рэчах” падданым перад дваранінам гаспадарскім; староста магілёўскі павінен рабіць усё згодна са старым звычаем і так адносіцца да падданых, каб “пажыткі нашы гаспадарскія не былі заронены”, падданыя “ку ўбогасьці не прыходзілі” і гаспадару “дакукі не чынілі”[15]. Справа была настолькі сур’ёзнай, што гаспадар не толькі выдаў строгі загад на імя дзяржаўцы, але і дакладна вызначыў падаткавыя абавязкі магілёўцам, на аснове папярэдніх устаў. Ва ўставе быў дакладна вызначаны валасны і гаспадарскі прыбытак, тэрміны збору плацяжоў, адбывання павіннасьцей і інш. Але што да права воласьці на самаабкладанне, то яна пастаўлена пад нагляд дзяржаўцы: валасць не мела права “кідаць мёты” на падданых без ведама і волі дзяржаўцы, “бо для такіх мётаў іх, падданым нашым цяжкасць вялікая сядзеець і многія з іх адтаго і прэч сыходзяць”, і даніна гаспадарская гіне[16].

Такім чынам, пакідаючы лад грамадзкага жыцця папярэднім, урад пакідае за сабой права кантралявання.

Вельмі цікавыя цяжбы Крычаўскай воласьці са сваімі намеснікамі. У 1522 г. крычаўскія валашчане скардзіліся на свайго намесніка кн. Вас. Сям. Жылінскага. Вялікі князь прызнаў справядлівасць іхных скаргаў; а між іншым сяляне скардзіліся на тое, што кн. Жылінскі, калі яны робяць паміж сабой размёт, то і князь садзіцца з імі “на тых размётах... і з таго сабе не мала на іх пенязей бярэ”. Вялікі князь дае катэгарычны загад намесніку не

-78-

ўязджаць у валасць на полюддзе, не садіцца на размётах і забараніць сваімураднікам рабіць тое ж. Вялікі князь дадае, што ў дадзеным выпадку ён толькі падцверджвае болей раннюю пергаментную ўставу[17]. На самай справе, у 1511 г. той жа вялікі князь падцвердзіў для падняпроўскіх і задзвінскіх валасьцей лад, які існаваў пад час княжэння Вітаўта і вялікага князя Сігізмунда: згодна гэтай

---

[15]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, № 285.

[16]. Ibid., № 241.

[17]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 184-185..

граматы ўзнаўляліся правы сялян на самастойнае збіране даніны (як следства і на размёты) пры ўмове своечасовай яе выплаты; наместнікі і пісары не павінны былі прыязджаць у валасць[18]. Аднак наместнікі мала лічыліся з загадамі вялікага князя. У 1554 г. сяляне Чачэрскай валасьці вялі ўпартую спрэчку са сваім наместнікам п. Юр'ем Зяноўевічам. З нагоды іхнай скаргі вялікі князь дае вельмі падрабязную ўставу жыхарам. Па цікавячаму нас пытанню пра размёты грамата вызначае новы парад: валашчане не маюць права мятаць мёты без "ведама" дзяржаўцы "і разрубліваці, але кгды патрэба ўкажа для платаў нашых гаспадарскіх, або для якое слушнае патрэбы валасное разруб чыніці і мець мятаці"; пры разрубах і мётах павінен прысутнічаць сам дзяржаўца і яго віж; калі няма дзяржаўцы, то за ведамасьцю яго наместніка і віжа[19]. За сялянскай абшчынай, як бачым, застаюцца яшчэ права на размяркванне падаткаў, але пад пільным наглядам урадніка; абшчына таксама мае права самаабкладання, але зноў такі пад кантрлем дзяржаўцы.

Так хутка ішло ламанне старадаўніх звычаяў. Мы ўжо згадвалі пра ўстаўную грамату задзвінскім і падняпроўскім валасьцям. Акрамя Чачэрска і Крычава ў ёй згаданы наступныя валасьці: Азярышчынская і Ўсвяцкая, Любашанская, Прапойская, Горвальская, Рэчыцкая, Мазырская і Свіслацкая. Цікава прасачыць, якіх поспехаў дасягнулі ўраднікі і тут. У 1535 г. каралева Бона із сваёй асобнай "бачнасьці" на людзей валасьцей Усвяцкай і Азярышчынскай пастанаўляе, што дзяржаўца абалецкі павінен уязджаць у валасць толькі для збору даніны[20]; абшчына узначальваецца выбарным старцам[21]. Такім чынам, парушаліся правы сялян.



Не ў лепшым стане знаходзілася і Свіслацкая валасць. У грамаце вялікага князя, якая была выдадзена валасьці ў 1534 г., пералічаны доўгі шэраг навін, якія былі ўведзены дзяржаўцам Андрэем Неміровічам і яго служкамі ў валасьці. Шмат якія старасьцінскія паборы былі ўдвоены і ўтроены. Сяляне скардзіліся на тое, што калі служкі дзяржаўцы прыязджаюць у валасць мятаць даніну, то яны з'яўляюцца ў колькасьці 20-30 чалавек з жонкамі і дзецьмі, жывуць за кошт валасьці і да тых пор не ад'язджаюць, пакуль там не атрымаюць "паклона". Усе падобныя ўціскі прывялі да таго, што горад і валасць "збожалі"[22], людзі паразыходзіліся, ад чаго і прыбытак вялікакняскі паменшыўся. Разгледзеўшы справу, вялікі князь вызначыў нармы падаткаў і удзел наместніка ў мятанні падаткаў абмяжоўвае наступным чынам: наместнікі не маюць права прыязджаць у валасць для мятання даніны, сяляне павінны самі "змятаці" даніну і адвозіць яе да замку.

Урад, як мы бачым, спрабуе адрадзіць старажытны лад, але нельга сумнявацца ў безвыніковасьці яго спроб.

[18]. А.З. Р., II, 99.
[19]. Кн. Запісаў Літ., XXXVII , л. 101.
[20]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, № 238. (Кн. Запісаў Літ., XXXII, л. 38-9).
[21]. Кн. Запісаў Літ., XXXII, л. 89.
[22]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, № 224.

Мы пакажам яшчэ два факты барацьбы валаснога ладу з прыгонніцкімі тэндэнцыямі вялікакняскага ўрада із мясцовасьці тых жа падняпроўскіх валасьцей.

У 1533 г. старцы і людзі Бабруйскай воласьці скардзіліся на каралеўскіх пісараў за іхныя паборы пры збіранні даніны; яны прасілі не дасылаць да іх пісараў, згаджаючыся самім аддаваць даніну "спаўна". Вялікі князь згадзіўся і вызначыў тэрмін выплаты даніны грашовай і натуральнай. Пры гэтым грамата адзначае "хітрыя звычаі", якія з'явіліся ў валашчан: калі надыходзіць час збору даніны, шмат хто з іх разыходзяцца па іншых валасьцях, вяртаючыся ў свае сядзібы пасьля заканчэння тэрміну збору даніны; іншыя ж непасрэдна асаджваюцца ў суседніх валасьцях, але прадаўжаюць араць сваю зямлю на тэыторыі Бабруйскай воласьці і карыстацца борцямі, а даніну не плоцяць. Усім гэтым пазначаныя сяляне прыносяць шкоду вялікаму князю, "а цяжкасьці падданым нашым дзеюць, аж яны за тых самі даніну нашу плоцяць". Пагэтаму вялікі князь загадвае дзяржаўцам валасьцей не прынімаць ніводнага чалавека із іншай воласьці; калі ж чалавек сам адыдзе, то яго суседзі павінны паведаміць аб адыходзе і распавясьці пра месца новага пасялення ўрадніку; калі ж суседзі не паведамяць, яны павінны будуць самі плаціць даніну за адыйшоўшага; калі ўраднік, ведаючы аб адыходзе, не вызве адыйшоўшага, - ён плаціць за яго



даніну; калі землеўладальнікі ці наместнікі не выдаюць адыйшоўшага, плацяць "закладу" у 100 коп грошай. Наместнікі абавязаны асадзіць пустуючыя землі, каб з іх ішла даніна. Сяляне паказвалі на тое, што яны не разбіраюць пустуючыя землі, таму што ўраднікі бяруць свае ўрадніцкія прыбыткі і з "жывога", г. зн., з занятых зямель і з пустых; калі б вялікі князь загадаў ураднікам не браць сваіх прыбыткаў з пустуючых зямель, то сяляне абавязуюцца разабраць "межы сябе" ўсе пустаўшчыны і плаціць з іх гаспадарскія платы. Вялікі князь згадзіўся і на гэтую прапанову. Але тая ж самая грамата паведамляе і яшчэ адну цікавую для нас рысу: сяляне скардзяцца, што старцы "частыя мёты мечуць на воласць", а грошы пускаюць на свае патрэбы. Па гэтаму пытанню вялікі князь вынес такую пастанову: старцы з гэтага часу не павінны самастойна рабіць размёты на воласць, але калі спатрэбяцца грошы на "валасную патрэбу", тады ўся воласць "зваліўшыся" са старцамі, паведамляюць пра гэта ўрадніку наместніка; ураднік дасылае свайго віжа ў воласць, у прысутнасьці якога воласць кідае размёт так, "як бы сума не перавышала валасной патрэбы". Згодна размёту, старац павінен сабраць грошы і выкарыстаць іх на патрэбы воласьці[23].

Прыведзеная ўстава Бабруйскай воласьці дадае важныя дадзеныя да цікавячага нас пытання. Перш за усё, выяўляецца бяспрэчным, што воласць плаціць і за тых плацельшчыкаў, якія зыходзяць з воласьці; для гэтага воласць робіць размёт на ўсіх наяўных плацельшчыкаў. Воласць мае свае валасныя праблемы, якія яна вырашае шляхам самаабкладання, пры гэтым памеры збора вырашаюцца абшчынай, а размяркаванне робіць старац і, верагодна, старэйшыя

[23]. Кн. Зап. Літ., XV, л. 172.

мужы ў прысутнасьці ўсяго васнога сходу, а згодна з вялікакняскім указам і віжа. Але ў саму воласць ужо пранікае элемент разбурэння, таму што старцы і валашчане, скардзячыся на ўраднікаў, паказваюць на ўціскі і з боку выбарных старцаў. З гэтай нагоды прыходзіцца зрабіць выснову, што выбары ці замяшчэнне старцаў нейкім чынам кантраляваліся ўраднікам. Такія прыклады мы ўжо бачылі.

Разглядаючы з цікавячага нас боку "крыўды" розных валасьцей, нельга пакінуць без увагі скаргі да каралевы Боны, падданых людзей Барысаўскай воласьці ў 1522 г. Валашчане

-81-

скардзіліся на ваяводу віленскага Гоштальта, ад якога залежала воласць, што ён "накінуў" на ўсю воласць віншчыны 70 коп і іншыя паборы. Калі прыходзіць час мятаць даніну, ваявода бярэ "паздкі" 5 коп, а яго наместнік на сябе яшчэ бярэ 5 коп. Воласць "са слязамі" б'е чалом гаспадыні, прсячы вызваліць іх ад навін і ўзяць воласць пад сваё кіраванне[24]. У дадзеным выпадку мы назіраем знаёмую нам з'яву: за васной абшчынай яшчэ захавалася права размяркавання падаткаў, нават старасьцінскі прыбытак выплочваецца ўсёй воласьцю, згодна размяркавання, але ўрад сваімі захадамі імкнецца знішчыць валасную самастойнасць.

Гэтыя факты паказваюць нам унутраннае жыццё сялянскай абшчыны. агульнае ўражанне адно: мы з'яўляемся сведкамі глухой барацьбы сялянскай абшчыны з вялікакнязкімі ўраднікамі. Абшчына спрабуе адстаяць сваю незалежнасць ад урадніка, перашкодзіць, згодна старыне, яго прыездам у воласць. Насупраць, для ўрада ўезд у воласць вельмі прыбытковы артыкул, каб ён мог ад яго адмовіцца: выкарыстоўваючы ўезд, бяручы ўдзел у самых дробязных справах абшчыны, ён можа падзесярыць свой прыбытак рознымі шляхамі. Не трэба думаць, што гэта вызвеленне ад ураднічых прыездаў з'ява новая, ці такая, якую сяляне спрабуюць выкарыстаць у сваёй барацьбе супраць прыгонніцкіх тэндэнцый. У Полацкай устаўной грамаце 1511 г. вельмі выразна абмежавана права ўезду ў воласьці полацкага ваяводы[25], як следства, і яго ўраднікаў. Але нагадаем, што ўстаўныя граматы паўтаралі старажытныя земскія правы. Больш таго, можна прывесьці дастаткова вызначаныя сведчанні, якія даказваюць, што ўраднічыя ўезды ў воласць былі толькі часовай прывілегіяй для дзяржаўцы, якую ўрад часам лічыў патрэбным выкупіць[26].

---

[24]. А. П-З. Р., I, р. 62.

[25]. А. З. Р., II, 88.

[26]. Грамата Сігізмунда Старога Юр'ю Зяноўевічу, згодна якой вялікі князь даруе яму дзяржаву Магілёўскую, пералічвае падаткі і павіннасьці Магілёўскай воласьці; пра яго ўезд у воласць і пра палюддзе яна гаворыць як аб нечым вельмі звычайным: "а дзяржаўца наш пан Юр'я мае з намі браці ў кожны год: уезду свайго" і інш. (А. З. Р. р. 113). З такімі ж выразамі грамата 1518 г. перадае тую ж дзяржаву Яну Шчыту (Кн. Зап. Літ., VII, л. 594). Не тлумачыць сутнасць уездаў і грамата самаму Юр'ю Зяноўевічу (тая ж кніга, стр. 1168 новай нумерацыі). Здавалась бы, што уезды ўяўляюць адну са звычайных павіннасьцей воласьці. Але сучаснікі глядзелі на гэта інакш. Праз 22 гады, у 1536 г., калі ўзнікла ў Магілёўскай воласьці цяжба з яе дзяржаўцай кн. В. Я. Саломарэцкім, вялікі князь загадаў "князі канцэлярскія адтварыці" (г. зн. тую ж Метрыку) для высвятлення павіннасьцевых адносін воласьці да дзяржаўцы. Знайшлі тыя ж уставы, якія вядомы і нам, але аднесліся да іх так: "там у тых уставах той уезд

-82-

Наместнікі гаспадарскія не заўсёды задавальняліся ўездамі ці павелічэннем колькасьці апошніх; яны часта імкнуліся пасадзіць у воласьці свайго намесніка, служку, які, такім чынам, карыстаецца стпцыяй на працягу ўсяго года. Так, напрыклад, Бчыцкая воласьць у першыя гады княжэння Сігізмунда I скардзілася гаспадару на намесніка мазырскага (Мазырская і Бчыцкая воласць кіраваліся аднымураднікам) на увядзене навіны: ён патстаянна трымае ў Бцічы свайго намесніка, якога воласць абавязана паднімаць стацыямі; між іншым у воласьці быў такі звычай, што мазырскі дзяржаўца толькі адзін раз на працягу года прыязджаў да іх на палюддзе. Гаспадар аднавіў звычай, забараніў дзяржаўцы ўтрымліваць у Бцічкай воласьці намесніка[27]. Але і наступныя дзяржаўцы не заўсёды выконвалі гэтую ўставу. У 1551 годзе віленскі ваявода зноў разглядаў скаргу валашчан на іхнага намесніка М. В. Нарбута: апошні дасылаў два разы на год свайго намесніка. Ваявода згодна з гаспадарскім лістом аднавіў старыну[28].

Часам спрэчкі за ўезды прыводзілі ўрад да сутычак з воласьцю.

-83-

Цалкам зразумела, што калі ўраднік не меў права ўезду ў воласць, то мы павінны дапускаць шырокую аўтаномію абшчыны ў адміністрацыйным і фінансавым дачыненнях.

Да гэтых пор мы назіралі той бок абшчыны, які меў дачыненне да яе фінансавага гаспадарання. І гэта зразумела, так як фінансавыя інтарэсы стаяць на першым месцы жыцця ўсякай абшчыны: яны ўтварылі абшчыны, яны яе і разбураюць. Нашы дакументы кідаюць святло на абшчынны лад не ў момант яго стварэння ці нармальнага існавання, а надварот у прыяд разбурэння гэтага ладу. І на самай справе, усе садзейнічала гэтаму разбурэнню. Пакажам і ншыя бакі , якія садзейнічалі разбурэнню абшчыны. Нам давядзецца зараз сустрэцца з вельмі разнастайнымі бакамі дзяржаўнай гаспадаркі. Пагэтаму абмяжуемся толькі згадкамі некаторых яе асаблівасьцей.

Цэласнасць абшчыны разбуралася, калі з яе вылучаліся асобныя яе сябры, захоўваючы аднак за сабой абшчынную зямлю. Гэта магло здарыцца, калі сябра абшчыны атрымліваў зымлю “на асобную службу”. Селянін мог атрымаць на

---

апісаны ёсць, іж з ласкі нашае гаспадарскае *за данінаю і за лістом* нашым яны той уезд ім *устанавілі*; але кгды ж то яны першым дзяржаўцам пану Юр’ю Зяноўевічу, а пану Яну Шчыту давалі з уставы нашае і за лістом нашым гаспадарскім (значыць не па старыне),- на той час *той уезд ім адпускаем* да волі нашае гаспадарскае. А *напроціву* таго з ласкі нашае дамы есьма князю Васілю на іх браці цівуншчыны 80 коп грошай на вузкую лічбу, якую цівуншчыну *яны нам давалі*”. (Кн. Зап. Літ. XIX, л. 173-175. – у актах Літоўска-рускай дзяржавы, т. I, № 241). Відавочна, што Саломарэцкі атрымаў дзяржаву на ўтрыманне на тых жа ўмовах, што і Зяноўевіч і Шчыт, чаму гаспадар даў яму наўзамен уезду цівунскі прыбытак, які быў асабістым кармленчым прыбыткам, г. зн. выкупляе ў дзяржаўцы права ўезду. Гэтая справа яшчэ раз сведчыць, што далёка не заўсёды можна адаперціся на дакладны, магчыма, тэкст гаспадарскай граматы: толькі ў справе 1536 г. высветлілася, што ўезд даваўся як дарэнне, а не як звычайны артыкул валасьцельскага прыбытку.

[27]. Любаўскі, Абласны падзел і інш., дадат. № 17.

[28]. Кн. Суд Спр. Літ., XXVII , л. 88.

"асобную службу" большай часткай пустаўшчыну[29]; але ўрад на пачатку заахвочваў і пераход із цяглай абшчыны на чынш[30].

Не менш парушалася плацёжная раўнавага абшчыны, калі часткай яе зямлі завалодваў той ці іншы служывы чалавек. Патрэбна заўважыць, што ў старажытных граматах дастаткова выразна праглядае ўяўленне, што той ці іншы характар адбывання службы з зямлі замацоўваўся не за асобай, а за зямлёй. Такім чынам, зямля магла быць дараванай, ці кунічнай, цяглая, дзякальная, баярская і інш. Калі на ёй садзіўся чалавек адпаведнага стану, то, зразумела, ніякіх змен адбыцца не магло. Але бывала і наадварот: баярын, напрыклад, атрымліваў ці купляў цяглую зямлю. У такім выпадку, з яго баярскай зямлі ён выконваў баярскую службу, а з цяглай адбываў цягла[31]. Такое уладкаванне адносілася, ва ўсякім разе, да ніжэйшых станаў службаў. Для таго, каб баярыну



пазбавіцца ад цяглай службы з цяглай зямлі, ён павінен быў прасіць на гэта спецыяльнага дазволу вялікага князя, які шмат каму і выдаваўся[32]. Вядомы і такія факты, калі цяглы ці кунічны чалавек атрымліваў за якую-небудзь заслугу ад вялікага князя баярства, ці прызначаўся ім у спецыяльную службу, пакідаючы аднак за сабой тую зямлю, якой ён валодаў. У такіх выпадках пераходзіўшы ў іншы стан абяляў і тую зямлю, на якой ён сядзеў[33].

Але выпадкі падобныя вышэйпаказаным не ў такой ступені парушалі ранавагу абшчыны, як дараванні шляхце ў велізарных памерах зямлі з жывучымі на ёй сялянамі, таму што былі пераважна адзінкавымі. Дараванні маглі быць двуякімі: вялікі князь ці перадаваў землеўладальніку ўсе свае падаткі і службы, якія выпадалі на ўсю вёску ці асобнае дворышча, ці ж пакідаў за сабой гаспадарскі прыбытак з сялян, аддаючы ўласніку толькі старасьцінскія прыбыткі. Абодва спосабы раздачы зямель вядомы з вельмі даўніх часоў. Так, напрыклад, вялікі князь Вітаўт дае Ілле Вячкавічу некалькі вёсак на Валыні "вечна", але звыш таго "з ласкі" вызваляе гэтыя вёскі ад валаўшчыны, яма і нават следагонаў і распустак уладыцы[34]. Відавочна, патрабавалася асобая "ласка" з боку вялікага князя для вызвалення ад дзяржаўных павіннасьцей прыватнаўласніцкіх сялян, аддаваемых нават у вечнае валоданне, а не ў дзяржанне. Вялікі князь Казімір дае пану Доўкшу тры двары ў Бабруйскай воласьці, аддаючы ў той жа час намеснікам загад у іх не ўступацца[35]. Андрэю Пражоўскаму давялося прасіць вялікага князя Аляксандра аб вызваленні яго людзей Шэршнэвічэй ад мядовай

---

[29]. Акты літ-рус. дзярж., т. I, стр. 37. 149.

[30]. "Ніжлі, естлі бы каторыя людзі нашы хацелі самі сваёю добрай воляй на пянезях асесьці, не хочучы службу служыці, такіх бы ясі (дзяржаўца) людзей адсажваў, а ў тым бы ясі ім цераз тое цяжкасьці не рабіў", Браслаўская воласць на Падляшшы. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, срт. 197.

[31]. Баяры заяўляюць: "мы з таго тры службы служым: адну баярскую, а дзве дзякальныя". Акты Віл. Кам., XVII, стр. 16.

[32]. Напр. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 183, 150.

[33]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 65.

[34]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 3.

[35]. Ibidem, стр. 16.

даніны на ключ кіеўскі, якую яны давалі, хаця і належані землеўладальніку[36] і г. д. Так як валасное размеркаванне падаткаў мела дачыненне галоўным чынам да гаспадарскіх падаткаў, то перадача людзей у рукі прыватнага ўладальніка толькі тады мела дачыненне да інтарэсаў воласьці, калі яна спалучалася з дараваннем уладальніку і дзяржаўных падаткаў, якія прыходзіліся на долю даруемых сялян.

-85-

Вельмі зразумела, што часта бывалі такія выпадкі, калі прыватнаўласніцкія сяляне не жадалі адбываць ускладзеныя на іх валасныя павіннасьці, хаця і не былі вызвалены ад іх. У такім выпадку воласць павінна была сама шукаць сваіх патужнікаў па дзяржаўнаму цяглу. Пакажам некалькі прыкладаў.

Людзі Няметчынскай і Лыгменскай валасьцей скардзіліся ў 1495 г. вялікаму князю Аляксандру на паноў Нарбутовічаў у тым, што паны забралі без даніны гаспадарскай валасных людзей. Пасьля дазнання, аднак, выявілася, што ў Норбутаў ёсць лісты вялікіх князёў Сігізмунда і Казіміра на некаторых людзей; вялікі князь абяцае пакінуць іх пры данінах, "а што будуць самавольна людзей нашых за сябе забралі і з землямі іхнымі, а на што *людзі нашы довад учыняць*", то гэтыя захопы князь абяцае дасьледаваць праз сваіх пасланцаў[37]. Такім чынам, воласць і дае позвы аб захопах сваіх паплечнікаў і, калі узнікае справа, бярэ ў ёй значны ўдзел. Не менш цікавы і наступны выпадак. Свіслацкая воласць скардзілася ў 1499 г. на людзей, якія належаць баярам Катовічам, за тое, што апошнія не выконваюць разам з імі агульнадзяржаўных павіннасьцей – ардыншчыну, гарадзкую працу і старожу і інш. Для доказу валашчане спасылаліся на ўсе пяць суседніх валасьцей, але баярскія людзі патрабавалі прысягі толькі некалькіх асоб, якія сваімі сведчаннямі не спраўдзілі іхных надзей: вялікі князь вырашыў, што людзі баяраў Катовічэй павінны "ўсякую цягл цягнуці" з воласьцю[38]. У такім жа сэнсе мелі цяжбу ў 1529 г. падданыя Бабруйскай воласьці з людзьмі пана Яна Мікалаевіча Радзівіла і пана Вацлава Касьцевіча. Бабруяне сцвярджалі, што людзі абодвух паноў, Зубарэвічы і Калчычане, "з даўніх часоў" удзельнічалі з імі ў валасных размётах, старожы, гарадавой і маставой працах (якія таксама рабіліся па размётах). Зубарэвічы і Калчычане згодна рашэнню суда павінны былі ўдзельнічаць у размётах[39].

Цалкам зразумелы падставы падобных сутычак. Уладальніцкія сяляне карыстаючыяся абаронай свайго ўладальніка, пазбягалі валасных абавязкаў. Ва ўсіх выпадках шукае саваіх паплечнікаў і патужнікаў

-86-

па дзяржаўнаму цяглу сама воласць. Але часам урад прапануе і дзяржаўцам сачыць за правільным адбываннем землеўладальніцкімі сялянамі дзяржаўнага цягла[40]. Само сабой зразумела, што ў такіх выпадках гаворка ішла толькі аб такіх

---

[36]. Ibidem, стр. 69; пар. яшчэ стр. 74, стр. 135, стр. 127.

[37]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 61.

[38]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 86-87.

[39]. Ibidem, № 194.

[40]. "Такеж жалавалі (людзі Браслаўскай воласьці) нам, што мы там каторых людзей, патужнікаў іх, падданых нашых, пааддавалі, што тыя людзі ў гарадавой рабоце і мастоў масьціці памагаці ім не хочуць.

уладальніцкіх сялянах, якія не былі вызвалены ад дзяржаўнага цягла пры пераходзе да прыватнага ўладальніка. Дяржаўцы, дарэчы, не вельмі былі схільны ўступаць у спрэчкі з панамі адносна павіннасьцей іхных людзей. Насупраць, яны патрабавалі ад валасных сялян усіх павіннасьцей і падаткаў, хаця воласьці вельмі паменшалі ад дараваняў сялян шляхце[41].

Нежаданне ўладальніцкіх сялян несьці агульнадзяржаўнае

-87-

цягла з воласьцю вызывала часам спецыяльныя пастановы цэнтральнага ўрада. Падобная пастанова была выдадзена ў 1528 г. для Мазырскай воласьці. Справа была пачата перад вялікім князем мяшчанамі, старцам і ўсёй Мазырскай воласьцю. Валашчане паказалі вялікаму князю ўставу, згодна з якой прыватнаўласніцкія сяляне павінны былі ўдзельнічаць разам з воласьцю ў падымшчыне, замкавых працах, дзякле і грошах на замак. Вялікі князь са сваімі панамі радамі выдаў з гэтай нагоды такую пастанову: калі каму дараваны землі і людзі з вызваленнем ад цягла да выдання ўставы, то такія не нясуць цягла з воласьцю; хто ж із уласнікаў атрымаў землі да выдання ўставы без вызвалення ад цягла, - такія павіны адбываць цягла з воласьцю. Такім чынам, урад для шмат каго з уладальнікаў адмяніў прывілегіі[42].

Мы разглядалі такія канфлікты, якія ўзнікалі паміж валашчанамі і прыватнаўласніцкімі сялянамі. Але сустракаюцца такія факты, калі ў асяродку самой воласьці адна частка сялян не абявязана выконваць усе ці толькі некаторыя павіннасьці разам з усёй абшчынай. Праўда, такія факты вельмі рэдкія. Так, нам вядома скарга падданага гаспадарскага Полацкага павету Ломата на падданых Грыдка з сябрамі. Ломат даводзіў, што Грыдко з іншымі абавязаны дапамагаць Кушлікаўлянам і Бараздзіўлянам у падняцці станамі ваяводы полацкага. Сведкі не падцвердзілі скаргі Ломата і яго абшчыны[43]. Такім

---

І ты дэй к той рабоце адных нашых людзей выганяеш... Іно ач есьма там падданым нашым людзі пааддавалі, а работы гарадавыя і маставыя нікаму есьма не адпускалі, а так аж бы ясі і горад і масты ўсімі людзьмі, як нашымі, так і падданых нашых рабіў патаму, як і перад тым бывала". Акты літ.-рус. дзярж., т. І, стр. 197. Цівая таксама грамата, дадзеная ў 1533 годзе з нагоды скаргі бабаруйскіх валашчан: "І каторым тэж людзі воласьці Бабруйскае князям і панам, і баярам і дваранам нашым там есьма падавалі, вялелі есьма ім дань мядовую на сябе з іх браці, а дань грашовую і бабры і куніцы і іншыя ўсякія павіннасьці вялелі есьма пасполь з воласьцю нашаю Бабруйскаю ім на нас даваці. То пак дэй яны з воласьцю тых даходаў нашых паўняці не хочуць". Для чаго дасылаецца гаспадарскі дваранін, які абавязаны "тых людзей к воласьці Бабруйскай прыварочаці і к рабоце тэж замку нашага Кіеўскага іх выганяці". Ibidem, № 221. (Кн. Зап. Літ. XV, л. 102-103). У Чачэрскай воласьці (1554): "А людзі баярскіх, каторыя без лістоў нашых землі і людзі там дзержаць, і тэж мяшчане тамашнія і баброўнікі, і цяглыя і падданыя нашы тыя, каторыя землі цяглыі пад сабою дзержачы, іх ужываюць, маюць ім (валашчанам) у мецях і ў рабоце і ва ўсім памагаці і усі павіннасьці веспалок з імі спаўняці". Зап. Літ. кн. XXXVII, л. 101.

[41]. Ibidem, р. 185 – адносна Крычаўскай воласьці. Падданыя Абалецкай і Себежскай воласьці скардзіліся на харужага полацкага за тое, што ён ад іх патрабуе штогадова па 10 коп грошай; між іншым із воласьці шмат людзей раздадзена, і яны могуць даць (верагодна па размяркаванню) толькі 7 коп. "Я аб тым нічога не ведаю, адно як перад тым плаціл 10 коп грошай спаўна, так і зараз мне плаціце", - гаварыў перад вялікім князе харужы. Цікава, што ваявода Пятро Станіслававіч вырашыў справу на карысць харужаха, а вялікі князь – на карысць сялян. "Іно нам не бачыцца, аж бы яны мелі плаціці і за тых, каторыя суць раздадзены", № 220.

[42]. Акты літ.-рус. дзярж., т. І, стр. 207.

[43]. Ibidem, № 225.

чынам, у асяродку самой абшчыны былі сябры, якія карысталіся некаторымі ільготамі.

Да гэтага часу мы разглядалі такія ўмовы агульнадзяржаўнага жыцця Літоўска-рускай дзяржавы, якія разбуральна дзейнічалі на вясковую абшчыну. Але наш агляд не будзе паўным, калі мы не спынімся яшчэ на адной з'яве, праўда, вельмі складанай. Нам неабходна спыніцца на пытанні аб вылучэнні горада са складу воласьці. Зразумела, вылучэнне горада магло мець толькі разбуральны ўплыў на самастойнасць валасной абшчыны. У горадзе жылі больш самастойныя сябры абшчыны; горад даваў больш спрыяльных умоў для ўмацавання абшчыннай салідарнасьці, хаця б ўжо таму, што яго жыхары



знаходзіліся ў больш частых стасунках адзін з адным, чым жыхары асобных вёсак, якія складалі воласць. На пачатку амаль усіх заяў-скаргаў валасных людзей знаходзіцца ўказанне на тое, што горад і воласць дзейнічаюць разам. Відаць валасны старац для шмат якіх валасьцнй быў агульным прадстаўніком як горадатак і яго акругі-воласьці. Тая ці іншая пастанова адносна размяркавання падаткаў і іншых абшчынных інтарэсаў у граматах адносяцца аднолькава як да яе цэнтру-гораду так і да воласьці. Агульнасць інтарэсаў насельніцтва вясковай і гарадзкой абшчын тлумачыцца не толькі іхным адміністрацыйным адзінствам, але таксама і тым, што горад па сваіх занятках не адрозніваўся ад вёскі, ці правільней мала чым адрозніваўся ад яго. Але пры гэтым патрэбна мець на ўвазе геаграфічнае размеркаванне тых звестак, на якія нам да гэтай пары даводзілася спасылацца: яны адносяцца да паўночна-ўсходніх абласцей дзяржавы, да так званых Задзвінскіх і Падняпроўскіх валасьцей. У гэтай мясцовасьці горад пазней вылучаецца са складу воласьці, чуць ці не да сярэдзіны XVI ст. Нагадаем, што нават гарады, якія былі цэнтрамі цэлых зямель, не хутка парываюць свае сувязі з чорнымі людзьмі. Статутныя граматы Полацка, Смаленска і Віцебска дадзены не толькі на імя шляхты і святарства, але і на імя усёй зямлі, усяго паспольства (Полацкая) і чорных людзей (Смаленская)[44], хаця самі статутныя граматы амаль нічога не гаворацьаб свабодным сялянскім засяленні зямлі. Гэтая сувязь, у сферы фінансавых інтарэсаў, заўважаецца яшчэ і на прыканцы XV ст.[45], хаця, бяспрэчна, адносіны цэнтральнага горада да зямлі зусім іншыя, чым адносіны валаснога цэнтра да воласьці. Насупраць, заходнія вобласьці літоўска-рускай дзяржавы рана вылучаюць горад із земства, мепавіта з канца XIV ст., пры дапамозе пашырэння магдэбургскага права. Канец XV ст. і першая палова XVI ст. тут на захадзе, у Падляшшы, на Валыні, часткова ў самой Літве, заняты паскораным пераходам на нямецкае права, гарадзкое і вясковае; гэта мае дачыненне як да дзяржаўных зямель,



[44]. Ясінскі, Статутныя земскія граматы, стр. 104. Жмудзкая грамата выдадзена не толькі на шляхту, але і на кметаў, Ibid., 105.

[45]. Напрыклад, дваране, мяшчане і валасныя людзі полацкія атрымліваюць ад вялікага князя Аляксадра бабровыя гоны ў агульнае карыстанне за агульны ўнёсак, для якога, бяспрэчна, неабходна было размяркаванне. А. З. Р., I, 131.

так і да прыватных (асабліва на Падляшшы). На нямецкае права садзіцца частка свабоднага земляробчага насельніцтва; другая частка разам з рабамі запрыгоньваецца. Гэта адрозненне ў гісторыі эканамічнага побыту той і другой палавіны Літоўскай дзяржавы неабходна і нам мець на ўвазе.

Што да адносін горада і воласьці перад яго вылучэннем, то нашы крыніцы, на жаль, мала гавораць пра гэта. Нам вядомы толькі некалькі выпадкаў сутычак горада з воласьцю. Так, валасныя людзі здзітаўскія скардзіліся ў 1520 годзе на войта і мяшчан здзітаўскіх (дарэчы, невядома, ці на ўвесь горад, ці толькі на яго частку) у тым, што мяшчане не хочуць плаціць з імі падаткі і цягнуць цягла, "а зямлю пад сабой маюць". Мяшчане, між іншым, сведчылі, што яны ніколі не плацілі падаткаў і цягла не цягнулі з воласьцю, але служылі канём: вялікі князь прызнаў правымі мяшчан, таму што яны паказалі адпаведныя дакументы[46]. Тут цікава для нас адзначыць, што сувязь горада з воласьцю з боку гледжання валасных людзей была заснавана на агульным уладанні зямлёй: валашчане так настойліва патрабуюць ад здзітаўскіх мяшчан сумеснага адбывання павіннасьцей таму, што апошнія карыстаюцца валасной зямлёй. Такім чынам, агульная зямля была той падставай, на якой зыходзіліся інтарэсы гаражан і валашчан.

Другой сферай агульных інтарэсаў было агульнае падатнае цягла. На гэтай аснове часам і адбываліся сутычкі паміж горадам і воласьцю.

Так, паміж мяшчанамі тарапецкімі і воласьцю адбываліся сутычкі праз размяркаванне падаткаў; гэтыя сутычкі прывялі да таго, што вялікі князь "пажалаваў" валашчан, дазволіўшы ім збіраць падаткі асобна ад гаражан і прывозіць іх у скарб. Відаць мяшчане тарапецкія, карыстаючыся тым што наместнік прызначаўся із іхнага асяродку, уціскалі валашчан пры размяркаванні падаткаў. Вялікі князь вылучыў горад з воласьці[47].

Але асабліва цікавая спрэчка паміж барысаўцамі: мяшчанамі і валашчанамі. Калі справа мела дачыненне да інтарэсаў усёй воласьці, мы бачым, што як так і другія разам абараняюць іх. Але паміж імі быў і прадмет спрэчак, якія аднаўляліся некалькі разоў на працягу паўтары стагоддзя і парушалі згоду ў асяродку абшчыны. Падставы гэтых спрэчак – грамата вялікага князя Вітаўта, якая вызваляла валашчан ад павозкавай павіннасьці.



Пры Казіміры мяшчане паспелі "прывярнуць" валасных людзей у павозкавае цягла: яны вымусілі валашчан "сьцерагчы" з павозкамі дзесяць тыдняў, тады як самі адбывалі толькі тры. Вялікі князь Аляксандр, пасьля скаргі валашчан ў 1494 годзе вызначыў такі парадак: мяшчане павінны сцерагчы шэсць тыдняў, валашчане – дзесяць. Пры праездзе вялікіх гаспадарскіх пасланнікаў, мяшчане і валашчане абавязаны разам паднімаць іх стацыямі. Калі князь прышле ў Барысаў коней на "пакорм", то канекормчая павіннасць размяркоўваецца згодна з расписаннем павозкавых тыдняў: шэсць тыдняў ляжалі

[46]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 170.
[47]. А. З. Р., I, 171.

на мяшчанах, дзесяць – на валашчанах[48]. Нельга не заўважыць, што такое гаспадарскае рашэнне не зусім аднаўляла правы валашчан, так як Вітаўт зусім вызваліў іх ад павозкавай павіннасьці. У 1541 г. спрэчна зноў аднавілася. На гэты раз валашчане паказалі ліст Вітаўта і судовую выснову Альбрэхта Кгаштольта; абодва дакументы былі спрыяльныя для іх. Верагодна, зыходзячы з такіх меркаванняў не быў прад’яўлены ліст Аляксандра, які мы толькі што цытавалі. Судовы вырак на гэты раз звёўся да адаўлення ільгот дадзеных Вітаўтам і выракам Кгаштальта: валашчане назаўсёды вызваляліся ад павозкавай павіннасьці, за выключэннем выпадкаў прыезда самаго гаспадара. Ганцоў і пасланнікаў паднімаюць самі мяшчане. Валашчане даюць разам з мяшчанамі павозкі толькі пад звера, забітага ў барысаўскіх лясах[49]. Такім чынам, падстава для сутыкнення валасных і гарадзкіх людзей Барысаўскай воласьці – прывілегія Вітаўта – чыста знешняя. Мы не ведаем яе матываў, але відаць, гэтае ўмяшанне ўрада не было звычайным: супраць яго пратэставалі не толькі мяшчане – пацярпелыя, але і вялікі князь Аляксандр, які не зацвердзіў прывілей ва ўсіх артыкулах.

К палавіны стагоддзя сутычкі паміж горадам і воласьцю станавяцца больш адчувальнымі. У 1551 г. Мазырскія мяшчане ўжо асобна



ад воласьці скардзяцца на свайго намесніка за крыўды; у іхнай скарзе адчуваецца нават варожасць да апошняй: мяшчане папракаюць дзяжаўцу, між іншым, і ў тым, што ён за паклоны вызваляе ад замкавай працы валашчан, з нагоды чаго пабудова замку запавольваецца[50]. У Магілёўскай вобласьці таксама адбываліся непаразуменні паміж гарадзкой абшчынай і вясковымі. У 1555 г. справа дайшла да вялікага князя, мяшчане хацелі перакласьці на плечы валашчан чатыры пятых гарадзкой працы. Але із рээстраў скарбавых, са сведчанняў добра ведаўшага тамашнія адносіны праз прыватныя паезкі падскарбія Яна Гарнастая, выявілася наступная сістэма размяркавання павіннасьцей і падаткаў паміж горадам і вёскамі: адных “паплаткаў” гараджане давалі чацвёртую частку, другіх – пятую, а із гарадавой працы павінны былі выконваць чацьвёртую частку. Такія суадносіны прызначаны вялікім князем і на наступныя часы[51].

Пазначаныя факты паказваюць на дзве падставы сутычак, наогул вельмі рэдкіх, гарадзкіх інтарэсаў і валасных, - сутычкі на падставе валодання зямлёй і размяркавання падаткаў. Але, бяспрэчна, не толькі яны, а больш глыбокія падставы павялі да вылучэння горада са складу воласьці, нават ва ўсходніх

---

[48]. Кн. Зап. Літ., V, л. 5. Надрукавана ў Леантовіча, Акты Метрыкі Літоўскай, № 91.

[49]. Кн. Зап., 27 л. 53 об. – 54 об. Валашчане паказалі ліст Вітаўта і судовае рашэнне Альбрэхта Кгоштальта, - “у каторых жа лістах выпісана іж ім людзем данным з павозкамі недзелі не сцярэгчы ніколі, ніжлі калі сам гаспадар там паедзе, а паслоў і ганцоў і іншых, хто на павозках паедзе, мяшчане коньмі сваімі маюць падняці, бо яны людзі служэбныя, а данным людзям валашчанам таго з імі не паднімаці. А каторыя звер там у ловах барысаўскіх уловяць, іно валашчане пасполу з мяшчаны пад той звер павозкі даваці маюць”.

[50]. Кн. Суд Спр. Літ., XXVII , лл. 84-87, у Актах літ.-рус. дзярж., т. I.

[51]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I. (із кнігі С. С. Літ. XXXIV).

абласьцях. Нам няма патрэбы спыняцца на іх. Адно з’яўляецца бяспрэчным, што вылучэнне горада са складу абшчыны вельмі дрэнна адлюстравалася на яе ўстойлівасці: разам з горадам абшчына згубіла найболей рухомую, цесна згуртаваную, верагодна, больш заможную і развітую ў грамадзкім дачыненні частку валасьці.

Да гэтай пары нам прыходзілася разглядаць толькі адзін бок абшчыннага жыцця. Агульнае ўражанне вынікаючае з гэтага агляду, зводзіцца да таго, што ў першай палове XVI ст. існуе ў заходне-рускіх абласьцях сялянская салідарнасць; гэтую салідарнасць можна прызнаць абшчыннай арганізацыяй у памерах валасьці. Унутраным злучаючым звяном гэтай арганізацыі з’яўляюцца фінансавыя (не толькі падатныя) інтарэсы, знешнім – адміністрацыйны падзел. Але момант у які мы назіраем абшчыну – час яе разбурэння пад ціскам урадавай апекі, адміністрацыйнага ціску і агульных умоў дзяржаўнай гаспадаркі.

-92-

Зараз мы пяройдзем да тых звестак, якія малююць дадатныя бакі валаснога жыцця. Ведаючы, што мы назіраем абшчыну пад час яе разбурэння ведаючы недахопы нашых крыніц, цяжка даць поўнае апісанне абшчыннага ладу і пры тым такое, у якім бы былі высветлены ўсе прыватнасьці.

Сябры валаснoй абшчыны, якія выконвалі нейкія грамадзкія абавязкі, звычайна мелі назву *мужы*, радзей проста *людзі*: так яны звалі самі сябе, так называюць іх і ўрадавыя акты. Вялікі князь Казімір піша грамату на імя намеснікаў магілёўскіх, старцаў і *усіх мужоў*[52]. “Мы мужы любашанцы”, ці “мы мужы лебядзёўцы”, гаворыцца ў грамадзкіх прысудах, аб якіх мы яшчэ будзем гаварыць. Каралеве Боне скардзяцца *людзі* валасьці Усвяцкай. Так называлі адзін аднаго і абнаабшчыннікі, калі мяркаваць пра гэта па зваротах судзячыхся да копных суддзяў[53]. Абшчына носіць назву *грамада*[54]. Вельмі верагодна, што і абшчынны сход насіў такую ж назву, якая надаецца яму пры сходзе копнага суду – *капа*, *грамада*[55], нарэшце *веча*[56], магчыма *круг*[57].

Пастаянным назіральнікам за інтарэсамі абшчыны быў яе выбарны кіраўнік – *старац*. Звычай выбіраць старца – з’яўляўся старадаўнім звычаем валасьці, значыць яе правам. Людзі Ўсвяцкай валасьці скардзіліся каралеве Боне на свайго дзяржаўцу, п. Кірдэя Грычыновіча: ніколітак не бывала, гаварылі яны, каб дзяржаўца пастаянна трымаў у валасьці сваіх служак, насупраць, “ніжлі дэй той у іх ёсць звычай старадаўні, што яны самі старца межы сабой выбіраюць. І білі нам чалом, абыхма іх пры старадаўніх звычаях іхных тамашніх захавалі”; каралева загадвае дзяржаўцы забраць свайго служку з валасьці, “іж яны старца межы сабою выбранага маюць там меці і водлуг даўняга звычнага абычаю

[52]. А. П-З. Р., І, р. 18.

[53]. Сірогіс, Копны суд, Працы папярэдняга камітэта па ўладкаванню ІХ Віленскага археаграфічнага сходу, 246.

[54]. Арх. Паўднёва-Заходняй Расіі, ч. 7, т. 2, р. 284.

[55]. Ibidem, р. 243.

[56]. Arch. Sang. IV, 173.

[57]. Віл. Арх. Збор., І, 194-195.

маюць ся ў тым справаці і радзіці". Праўда Бона пакідае пытанне пра старца "да часу", пакуль яна правядзе дазнанне[58], але, усё-такі, сведчанне

-93-

саміх валашчан само па сабе важнае. І гэтае сведчанне пра "звыклы" звычай не стаіць адзінкава. Адзін цікавы дакумент дае ўказанне на тое, якім чынам абіраўся старац. "Мужы Любашанцы"[59] склалі прысуд, пазначаны 9 сакавіка 1500 г. аб выбранні старцам чалавека той жа Любашанскай воласьці Селівона Хласовіча. Усіх мужоў, абвясьціўшых прысуд ад імя воласьці, - дзевятнаццаць чалавек; відавочна, кожны з іх з'яўляўся прадстаўніком яшчэ меншай ячэйкі сялянскай тэрыторыі – вёскі: Сімон з Сушы, Сарока з Хочыч і г. д. Абраны ў якасьці старца знаходзіцца ў асяродку выбаршчыкаў і быў, верагодна, абраны ў другі раз (Селівон, старац з Лешніцы). Застаецца не высветленай адна абставіна: пазначаныя дзевятнаццаць чалавек заяўляюць: "Мы, мужы Любашанцы, па даручэнню ўсёй воласьці Любашанскай, вызнаваем сім нашым лістом (ідзе пералік імён): абабралі есьма усі васпалок старцам чалавека воласьці Любашанскае ж на імя Селівона Хласовіча". Гэтае месца не зусім вызначана гаворыць: ці *выбіралі* яны старца па даручэнню воласьці, ці ж толькі па яе даручэнню склалі *ліст*, г. зн., *пісьмовы прысуд*, які і абвясьцілі ў Вільні? Верагодней за ўсё, што прадстаўнікі вёсак былі і абіраўшымі старца і складальнікамі гэтага *ліста*; у дадзеным выпадку можна было б нагадаць, што і на копны суд звычайна выходзілі не ўсе *людзі*, але абраныя[60].

Праз тое, што гэты бок абшчыннага жыцця мае вялікае значэнне, нам патрэбна спыніцца яшчэ на некалькіх прыкладах. У 1556 г. уснікла цяжба паміж валашчанамі магілёўскімі і іхным дзяржаўцам кн. В. Я. Маломірэцкім. Скаржнікі, між іншым, сведчылі, што дзяржаўца сам прызначыў у воласьці старца Якава, які "вялікія драпежніцтвы і цяжкасьці" чыніў людзям. Гаспадар па гэтаму пытанню выказаўся вельмі вызначана, патрабуючы пазбаўлення старца пасады і прызначэння іншага, - "чалавека добрага, а годнага, каго воласць пахоча і каторы бы за людзей стаяў" і справядлівасць чыніў[61].

Болш таго, адзін дакумент тлумачыць нам нават, калі і на якія тэрміны абіраўся абшчынны старац. Воласць Барысаўская скардзіцца на розныя крыўды, чынімыя ёй ваяводаю віленскім Гаштальтам,

-94-

і, між іншым, на наступнае: "А што, міласьцівая гаспадарыня, у тым нам крыўду чыніць: штож як межы сябе па вясьне, сабраўшыся з мужамі паспол, каторага межы сябе старца ўставіць хаца", ад таго намеснік бярэ з воласьці пяць коп ды яшчэ на ваяводу пяць коп[62]. Такім чынам, старцы выбіраліся штогадова вясною; час выбару, заўважым, цалкам супадае з датай прыгавору мужоў Любенскіх.

58. Метрыка Літоўская, кн. Зап. Літ., XXXII, л. 39, сярод актаў 1548 г.

59. Акт. Гл. ніжэй у прымеце на стр. 109.

60. Ciporic, op. cit.

61. Акты літ.-рус. дзярж., т. І. № 235.

62. Акты П-З. Р., І, р. 62.

Дадзеныя актаў, пра якія мы толькі што гаварылі, звяртаюць на сябе ўвагу яшчэ ў двух дачыненнях. Па-першае, яны відавочна паказваюць, што вялікакняжаскія ўраднікі ўжо на пачатку XVI ст. імкнуцца ўплываць на абшчыннае жыццё, ці замяняючы старца сваім служкай, ці бяручы непамерную плату за дазвол выбіраць старца. Падобная палітыка вялікакняжаскіхураднікаў стаіць, бяспрэчна, у цеснай сувязі з агульнай шляхецкай палітыкай таго часу ў дачыненні да земляробчага насельніцтва краіны. Але тыя ж самыя акты могуць прасвятліць для нас і яшчэ адзін бок абшчыннага жыцця. У крыніцах сустракаюцца ўказанні на тое, што старчаства раздае і сам ялікі князь ці яго наместнік: вышэй быў паказаны дакумент, у якім вялікі князь дае загад наместніку даваць воласьці таго старца, якога яна захоча, але з дакумента відавочна, што старац выбіраецца; значыць, наместнік “дае” старца, ці іншымі словамі зацверджвае выбранага воласьцю; далей, мы бачым, што ў Барысаўскай воласьці і ваявода і наместнік бралі плату за дазвол выбіраць старца. Праўда, з дакумента не зусім зразумела, што аспрэчвалі валашчане – само права браць грошы за дазвол выбіраць старца ці памер гэтай пошліны; але вельмі верагодна, што старац даваў нейкую плату за сваё абранне наместніку, ці самаму вялікаму князю. Так, захаваўся адзін запіс пра раздачу ў Троках намесніцтваў і старчастваў: хаця ў запісе і гаворыцца пра раздаванне старчастваў, але ці не патрэбна і тут меркаваць пра існаванне папярэдняга выбірання[63]?

Мы паказалі некалькі фактаў, дзе старцы ўзгадваюцца ў так званых Падняпроўскіх, Полацкіх і Тарапецкіх[64] валасьцях. Але з гэтага было б памылкай рабіць выснову, што старцы,



як прадстаўнікі сялянскай абшчыны, вядомы толькі ва ўсходніх частках літоўска-рускай дзяржавы. Насупраць, старцаў мы сустракаем і на заходніх яе ўскраінах: у Пінскім княстве[65], на Валыні[66], у наўгародзкім павеце[67], на Падляшшы[68], асабіста на Літве[69].

Важна адзначыць і тую абставіну, што старцы ў літоўска-рускіх абласьцях бяспрэчна старажытней уладання літоўскіх князёў: найбольш раннія згадкі пра іх адносяцца да канца XIV ст. і ў Полацкіх валасьцях[70], дзе ў той час літоўскі уплыў яшчэ не мог зацвердзіцца.

У нашу мэту не ўваходзіць разгляд функцый іншых прадстаўнікоў сялянскай улады – прыставаў, соцкіх, сарочнікаў і дзесятнікаў; хаця і гэтыя ўлады назіраюцца на чале сялянскіх абшчын, асабліва калі справа ідзе аб

[63]. “А старчанне Рэчыцкае ўзяў Камар, каралю даў 2 карабельнікі”... “Ад сярэбранага старчання магілёўскага Юрко даў 13 коп. Ад мядовага старчання Андрэйка даў 4 капы”. Акты літ.-рус. дзярж., т. І. стр. 52.

[64]. Акты З. Р., І, стр. 198, 171, 27.

[65]. Акты Віл. Арх. Кам., ХХ, р. 300.

[66]. Арх. П-З. Р., ч. VII, т. І, стр. 38-39.

[67]. Акты Віл. Арх. Кам., XIII, р. 337.

[68]. Віл. Арх. Зб., 183.

[69]. Акты літ.-рус. дзярж., т. II ., стр. 116, 75.

[70]. А. З. Р., І, 27.

матэрыяльных яе інтарэсах, але бяспрэчна яны, як па свайму паходжанню[71], так і па таму, што яны прызначаліся вялікім князем ці ўраднікам[72], не могуць быць аднесены да прадстаўнікоў самастойнага абшчыннага жыцця. Цікава адно, што нідзе сотнікі, сарочнікі ці дзесятнікі не дзейнічаюць разам са старцамі[73], хаця некаторыя із іх узначальваюць воласьці. Старцы на заходняй палавіне літоўскай Русі ужо ў першыя гады XVI ст. узгадваюцца рэдка, выпадкова; на ўсходняй жа палавіне яны яшчэ ў 30-ых гадах XVI ст. уяўляюць трывалы інстытут, які не безпаспяхоўна змагаецца з вялікакняскімі намеснікамі. Калі мы супаставім гэтую з'яву з тым агульнавядомым фактам, што змяненне старажытнарускіх сельска-гаспадарчых адносін геаграфічна распаўсюджвалася



з захаду, то і больш ранняя замена старцаў на Падляшшы, Чорнай Русі і на Валыні іншымі, больш залежнымі ад урада ўладамі, стане цалкам зразумелай. Для замены выбарных абшчынных улад былі выкарыстаны не новыя па свайму паходжанню ўлады (так як сотнікі і інш. таксама старажытныя пасады): прадстаўнікі разнастайных спецыяльных службаў, дастаткова залежныя дваровага ўраду былі гатовым матэрыялам для такой замены[74].

Звернемся зараз да тых абавязкаў, якія выконваў старац.

Перш за ўсё мы адзначым, што старац выконваў судовыя абавязкі ў воласьці, ці, ва ўсякім выпадку, удзельнічаў у судовых паседжаннях. Так, напрыклад, Аляксандру скардзіліся ў 1497 г. старац і людзі Старцавай воласьці на намесніка тарапецкага з нагоды розныз уціскаў з боку апошняга; вялікі князь, між іншым, загадвае намесніку "не судзіці іх і не радзіці: мае іх судзіці і радзіці старац, а люба выязджаючы наш, які выязджае да іх за нашай данінай, а люба за іныя нашы справы каго вышлем"[75]. У дадзеным выпадку судзіў адзін старац. Але часам старац судзіў разам з вялікакняжым ці землеўладальніцкім намеснікам. У 1499 г. вялікі князь Аляксандр, вырашаючы спрэчку паміж уладыкай Лукой і мяшчанамі полацкімі аб людзях, якія былі дараваны князем Скіргайлам крылашанам св. Сафіі ў Полацку, так гаварыў адносна старцавага суду: "а судзіці маюць іх (людзей) крылашане із старцы тых валасьцей, а віна на крылашан жэ мае быці па даўняму"[76]. Сустракаем звесткі таксама аб удзеле ў судзе старцаў і мужоў воласьці ў іншых месцах Полацкага павету[77].

Зразумела, што вызначыць кампетэнцыю старцавага суду нельга, праз недахоп звестак. Але было б памылкай думаць, што ў пазначаных сведчаннях мы маем справу з нейкімі выключнымі выпадкамі – прывілегіямі. Граматы толькі

---

[71]. Ліннічэнка, Нарысы із гісторыі саслоўяў у паўднёва-заходняй (Галіцкай) Русі, М. 1894. Стр. 116.

[72]. Любаўскі, op. cit.

[73]. Дзяржаўца магілёўскі прызначае сваіх дзесятнікаў у воласьці і сяляне скардзяцца на гэта, Акты літ.-рус. дзярж., т. І. № 235. У скаргах воласьці, як мы бачылі, часта аспрэчваецца права намесніка ўтрымліваць у воласьці свайго служку, намесніка. Вельмі верагодна, што гэтыя служкі тое ж самае, што і ў іншых актах дзесятнікі і сотнікі намесьнічыя.

[74]. Пар. звесткі пра дзесятнікаў уладыкіных, А. З. Р. І, стр. 103.

[75]. А. З. Р., І, стр. 171. Свіслацкія валашчане мелі, згодна ўставы, суд аб борцях, Ibid., II, p. 368.

[76]. А. З. Р. І, стр. 198.

[77]. Арх. П-З. Р., ч. VI, т. І, стр. 29.

узнаўляюць старыну; у апошнім, напрыклад, выпадку вялікі князь Аляксандр толькі падцверджвае ўстановы некалі ўсталяваныя Скіргайлаю. Недахопам звестак нельга таксама растлумачыць, што судовыя функцыі старцы выконвалі толькі ва ўсходніх абласьцях:

-97-

патрэбна памятаць, што мы назіраем абшчыну пад час яе разбурэння, што, нарэшце, спрачаючыяся ў копных судах, верагодна, не безпадставна называлі сваіх суддзяў *панове старцы*[78].

Але дзейнасць старца не абмяжоўвалася судом. Галаўнейшым абавязкам старца было збіранне падаткаў. У папярэднім выкладанні мы ўжо сустракалі такія факты, із якіх відаць, што старац і збіраў і браў значны ўдзел у іх размяркаванні. Але мы бачылі таксама і тое, што старац не самастойна мятаў мёты на воласць, калі выпадала патрэба ў валасных выдатках, але ў прысутнасьці мужоў воласьці. Адзін дакумент, пра які мы ўжо згадвалі пры папярэднім выкладанні, паказвае і на тое, што побач са старцам у воласьці былі і бірчыя, якія збіралі падаткі і, верагодна, яны павінны былі даваць справаздачу воласьці пра іх выкарыстанне; але роля гэтых бірчых у дачыненні да воласьці не зусім высветлена. Бяспрэчна адно, што перад скарбам фінансава адказнай асобай у абшчыне быў старац. У большасьці выпадкаў, асабліва на прыканцы XV ст., старац сам дастаўляў валасную данну ў скарб[79]. Зразумела, што і ў такіх выпадках, калі ў запісах прыбыткаў гаспадарчага скарбу сустракаем сведчанні таго, што валашчане прынеслі падаткі, то, патрэбна думаць, на чале іх быў усётакі старац[80]; множны лік у такіх выпадках можа быць толькі паказчыкам, хаця і ўскосным, на тое, што старац вёў разлікі са скарбам у прысутнасьці іншых мужоў воласьці, магчыма тых жа бірчых. Неабходна зрабіць яшчэ адну заўвагу. У старажытных запісах часам сустракаем сведчанні таго, што наместнік такой-та воласьці дае даніну ў скарб. Памылкова было б думаць, што ў дадзеным выпадку неместнік замяняе старца: старац і наместнік адной і той жа воласьці даюць даніну ў скарб адначасова; відавочна, як следства, наместнік дае ў скарб са сваіх наместнічых прыбыткаў, а старац

-98-

воласьці – валасныя зборы[81]. Гэтая абставіна патрабуе вельмі асьцярожнага стаўлення да сведчанняў пра збіранне даніны з воласьці самімі наместнікамі.

Для цэнтральнага ўраду старац, ва ўсякім выпадку, з'яўляўся прадстаўніком фінансавай адміністрацыі воласьці. Калі князь вызваляў некага ад цягла разам з воласьцю, то ён паведамляў пра гэта не толькі наместніка, але і старцаў[82]. Таксама ж калі гаспадар вылучаў некалькі цяглых службаў із воласьці

---

[78]. Гл. пазначаны артыкул сп. Сірогіса.

[79]. Акты Віл. Арх. Кам., XX, 300; А. З. Р. I, стр. 171; Акты літ.-рус. дзярж., т. I, 64.

[80]. Гл. Акты літ.-рус. дзярж., т. I. срт. 63-64. У 1496 г. пісар гаспадарскі “браў” даніну з Задзвінскіх валасьцей; але выяўляецца ён “браў” яе ў Берштах – значыць, сюды яе прывезлі старцы, сам жа пісар не ездзіў па валасьцях, Ibid., 67.

[81]. Акты літ.-рус. дзяржавы: “Мазырскі наместнік даў 12 коп грошай вялікаму князю, старац мазырскі даў 4 капы грошай”, т. I, стр. 64.

[82]. А. З. Р., I, 18; Леантовіч, Акты Літоўскай Метрыкі, № 11.

прыватнай асобе, вызваляючы гэтыя службы ад дзяржаўнага цягла, то і ў такім выпадку ён даваў звесткі старцу[83]. Нават выдзяленне свабоднай зямлі ў межах валасной тэрыторыі, у спрэчных выпадках, здзяйснялася пры дапамозе апытання мужоў воласьці [84], нарэшце, распараджаецца пустаўшчынамі ў воласьці, асаджвае ім прыхожымі людзьмі [85]. Старац паведмаляецца таксама пры аддаванні гаспадаром мытных збораў у воласьці[86].

Адсюль зразумела важнае значэнне старца ва ўсіх тых выпадках, калі так ці інакш справа мела дачыненне да фінансавага боку абшчыны. Старац у такіх выпадках быў абаронцай абшчынных інтарэсаў. Шматлікія выпадкі падобнага прадстаўніцтва мы бачылі вышэй, калі перадавалі факты барацьбы воласьці з абласной адміністрацыяй. Але мы спынімся яшчэ на некалькіх фактах, якія малююць дзейнасць старца і кола абшчынных інтарэсаў.

У 1497 годзе вялікі князь Аляксандр разлядаў скаргу намесніка Віцебскага Станіслава Глябовіча на людзей Азярышчынскай і Ўсяцкай валасьцей. Старац і мужы пераконвалі, што яны не абавязаны валачыць возера Вымны, таму што вызвалены ад гэтага граматай Вітаўта, і што намеснікі ў дадзеным выпадку ўвялі навіну; але выявілася, што лісты вызвалялі іх толькі ад платы няводнічым, а не ад працы, у чым прызналіся і самі валашчане.

-99-

Той жа намеснік скардзіўся на валашчан Азярышчынскіх, што яны адмаўляюцца касіць лукі на р. Лужэсне і забіваць езы[87]. Такім чынам, прадстаўнікі воласьці спрабуюць вызваліцца ад часткі прызначанага ім цягла.

Усякая навіна, усякі ціск з боку намесніка сустракае адпор з боку прадстаўнікоў воласьці, на чале якога бачым старца. Каля 1540 г., напрыклад, вялікакняжыя падданыя падалі цэлы шэраг скаргаў на навіны і вымаганні з боку іхнага дзяржаўцы князя Андрэя Меляшкоўскага[88]. Прыклады падобных скаргаў мы ўжо бачылі.

Воласць была, бяспрэчна, заклапочана правільным і не абцяжарваючым насельніцтва размеркаваннем падаткаў. Не гледзячы на супярэчлівыя часам дадзеныя, усё ж застаецца тое агульнае ўражанне, што для воласці прызначалася агульная сума падаткаў і яе размяркаванне здзяйснялася самімі валашчанамі. Вышэй мы бачылі, што сяляне змагаюцца з намеснікамі нават у палове XVI ст. за права самастойнага размяркавання; бачылі, што сяляне робяць свае размёты; нарэшце, бачылі, што сяляне самі аддаюць падаткі ў скарб, што прадугледжвае самастойнае размяркаванне. Акрамя ўсяго гэтага, да нас дайшлі некалькі падатных "устаў" Магілёўскай воласьці: у якіх дастаткова вызначана сведчыцца, што з воласьці ідзе агульны гаспадарскі прыбытак, незалежна ад колькасьці яе жыхароў; прыбытак пры каралеве Алене збіраўся ў такім жа

---

[83]. Леантовіч, Ibid., № 74; Акты літ.-рус. дзярж., стр. 16.
[84]. Ibid., № 118.
[85]. Арх. Зб. Віл., III, 272, 276.
[86]. Ibid., № 180.
[87]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 76.
[88]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, № 199.

памеры, як і ў 20-ыя гады XVI ст., хаця колькасць насельніцтва за гэты час змянялася[89]. На самай справе, у 1523 годзе валашчане і старцы Магілёўскай воласьці б’юць гаспадару чалом аб тым, што ў воласьці шмат пустых зямель, якімі яны не карыстаюцца, а пісары, між іншым, прызначаюць даніну з улікам і пустуючых зямель; гаспадар вызваліў іх ад падаткаў з пустых зямель, якія валашчане не перапрацоўваюць[90]. Але ў 1530 годзе валашчанам зноў давялося паўтараць сваё прашэнне аб тым жа самым[91]. Прашэнне валашчан аб адмене падаткаў з пустуючых зямель цалкам зразумела, таму што абшчыне даводзіцца плаціць і за сышоўшых. Устава Бабруйскай воласьці 1533 г. гаворыць пра гэта цалкам вызначана: адыход падданых робіць “шкоду” скарбу і “цяжкасць”



застаўшымся, таму што апошнія “за тых самі даніну нашу плоцяць”[92].

Магілёўская воласць не была выключэннем. У 1540 г. вялікі князь Сігізмунд Стары дае грамату Свіслацкай воласьці, якой зацверджвае старыну: “даніну на нас гаспадара даюць з усяе воласьці подле даўняга звычаю”; пры размяркаванні даніны “ні ўраднік і ніхто да іх не мае прыязджаці, адно самі мужы разкідаюць”. Замкаваму ўрадніку валашчане аддаюць толькі некаторыя падаткі “з трох сох”, некаторыя з усёй воласьці, а сена і дровы – з дыму[93]. Такім чынам, размяркаванне дзяржаўных падаткаў належала воласьці[94]. І не гледзячы на перашкоды, такі лад, г. зн. вызначэнне агульнай сумы гаспадарскіх прыбыткаў на ўсю воласьць, у некаторых мясцовасьцях трымаўся да канца XVI ст. яшчэ ў 1589 г. Сігізмунд III падцверджвае некалькім дробным валасьцям Полацкага павету іхную старыну: скарбавы рэестр, якім падаткі з гэтых валасьцей вызначаны агульнай сумай з кожнай воласьці[95]. З увагай на гэта, калі мы сустракаем у люстрацыях палавіны XVI ст. вызначэнне гаспадарскай даніны з цэлай вёскі, то натуральна думаць, што размяркаванне падаткаў было аддадзена на волю самой вёскі[96].

Даводзілася ўжо не раз звяртаць увагу на тое, што мясцовая адміністрацыя змагаецца з сялянскім самакіраваннем. Мясцовай адміністрацыі было зручна замяніць сваімі службоўцамі

---

89. Гл. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 187 і 173..

90. Ibid., стр. 192.

91. Ibid., № 206.

92. Кн. Зап. Літ., XV, л. 172.

93. А. З. Р., II, 367.

94. Пакажам яшчэ некалькі прыкладаў, якія сведчаць пра абшчыннае размеркаванне: у судовым выраку М. Радзівіла з нагоды скаргі воласьці Мазырскай на свайго дзяржаўцу Нарбута мяшчане скардзяцца: “Мы дэй з воласьцю подле прывілея яго каралеўскае міласьці плат *урочысты* даем дзвесце коп грошай і шэсцьдзесят коп грошай, а дзвесьце і шэсцьдзесят бочак жыта; з таго дэй дзяржаўца меў выхаванне сваё меці і пасла і ганца стацэямі і павозкамі паднімаці”. Кн. Суд. Спр. Літ., XVII, л.. 84-87.

95. “Нішчацкая воласць павінна даваць, водлуг рээстру старога, баброўшчыны па паўтары капы грошай шырокіх, мёду прэснага пудоў чатыры, за данінай гараднічаму полацкаму дванаццаць грошай шырокіх, на старожы замкавыя з дыму па два грошы шырокіх, харужаму полацкаму па дзве капы грошай літоўскіх, яго каралеўскай міласьці адну святліцу з іншымі валасьцямі, з людзьмі валасьці Клясіцкае” і г. д., А. П-З. Р. I, 229.

96. Даніна з усёй вёскі вызначана, напрыклад, у вёсках Асцёрскіх і Мазырскіх, гл. Архіў П-З. Р. ч. VII, т. I, стр. 597 і стр. 620 і наст.

прадстаўнікоў воласьці. Вельмі верагодна, што занядбаласць сялян ці іншыя падставы вымушалі іх даваць у скарб менш, чым лічылі скарбавыя рэестры. Адміністратары не аднойчы спасылаюцца на несумленнасць даннікаў пры аддавані даніны, а дапамагчы скарбу можна было ці ўзмацненнем апекі над абшчыннікамі, ці поўным пазбаўленнем права абшчыны на размякаване падаткаў. Зразумела і тое, што нязменнасць дзяржаўных падаткаў, прызначаемых па старадаўняму звычаю, не магла не клапаціць скарб, патрэбы якога к палове XVI ст. павялічваюцца. Рэформа сялянскага землеўладання пры такіх умовах была лагічнай неабходнасьцю і для цэнтральнага ўрада. Яна была здзейснена ў выглядзе валочнай сістэмы. Пры ўвядзені валочнай памеры фінансавая адасобленасць абшчыны губляла ўсякае значэнне. Доказам гэтага з'яўляюцца не толькі шматлікія люстрацыі, у якіх строга вытрыманы прынцып урадавага размяркавання падаткаў, часткова і павіннасьцей, але некаторыя і больш прамыя ўказанні. У 1561 годзе Рыгорам Валовічам і Мікалаем Нарушэвічам была дадзена Рэчыцкай воласьці ўстава, якая вызначала падаткі і павіннасьці горада і воласьці ўжо на аснове валочнай памеры. Устава прама гаворыць аб адмене валаснога размяркавання наступнымі словамі: "мяшчане ў месцах і старцы па валасьцях маюць ужо перастаці разрубаў і размётаў класьці на падданых гаспадарскіх: бо ўжо яка валашчане, так і мяшчане гасадарскія ад таго вызвалены і выняты суць"[97]. Але тое што складвалася стагоддзямі, тое не адразу паддавалася ўрадавай рэгламентацыі. Так у валочнай уставе Магілёўскіх воласьцей некаторыя падаткі і павінасьці, як бабёршчына, старажоўшчына, пакінуты пры валасным размяркаван[98].

Паказваючы на самадастатковасць у падаткавым дачынені валасной абшчыны, неабходна зрабіць яшчэ адну абмоўку. Мы гаворым пра абшчыну канца XV і пачатку XVI стст. Тут узнікае пытанне: ці складваецца фінансава-адміністрацыйны лад абшчыны на вачах гісторыі пад уплывам тых ці іншых фактараў агульнадзяржаўнага жыцця, ці гэты лад вельмі старадаўняга паходжання? Мельмі шмат было паказана фактаў для таго, каб склалася перакананне ў тым, што мы назіраем абшчыну ў момант яе разбурэння: спачатку барацьба вядзецца на падставе асабістых


адносін мясцовай адміністрацыі з воласьцю; з палавіны XVI ст. на дапамогу мясцоваму ўраду прыходзіць цэнтральны ўрад са сваімі рэформамі. Але калі сфарміравалася тая абшчынная арганізацыя, якая разбуралася ў першай палавіне XVI ст., - сказаць цяжка. Што яна не магла складацца пад час разбурэння – гэта зразумела. Але няма крыніц, з дапамогай якіх можна было б зазірнуць у больш раннія часы, у перыяд станаўлення літоўска-рускай дзяржавы. Каб не адхіляцца ў бок, мы абмяжуемся толькі меркаваннем, што і ў пачатковы перыяд літоўска-рускай дзяржавы пазначаная арганізацыя, ва ўсякім разе у

[97]. А. З. Р., IV, стр. 130.
[98]. Арх. Зборн. Віл., I, стр. 188.

фінансавым дачыненні, ўжо існавала. У адной грамаце вялікага князя Вітаўта, дадзенай барысаўцам аб цівунскім прыбытку, сустракаем наступнае месца: “а весіці (мядовую даніну – цівунскі прыбытак) іх чалавеку барысаўцу па старыне перад цівуном і перад мужмі, а цівунам і служкам яго ў тое не ўступаціся і нічым праз пошліну не абідзеці”[99]. Нельга разумець гэтае месца граматы вельмі шырока, але можна, здаецца, уявіць парадак аддавання даніны такім: “чалавек”, - мы б сказалі, што гэта старац, - у прысутнасьці мужоў воласьці здаваў даніну цівуну ад усёй воласьці: значыць і збіралася даніна самімі валашчанамі. Такім чынам, няма падстаў бачыць у адміністрацыйна-фінансавай дзейнасьці абшчыны такіх бакоў, якія б склаліся параўнальна нядаўна пад уплывам тых ці іншых умоў дзяржаўнага жыцця. Патрэбна памятаць, што літоўска-рускі ўрад неаднойчы заяўляў аб сваім імкненні абараняць звычай “звечны, старадаўні”: “мы нікому з падданых нашых навіны не ўводзім, а старыну не рушаем”[100].

Вывучаючаму заходне-рускую абшчыну даводзіцца з асаблівай дакладнасьцю збіраць факты, якія сведчаць аб яе фінансавай самастойнасці. І гэта таму, што побач з дадатнымі фактамі, сустракаем, відаць, і адмоўныя. Добра вядомы характар шмат якіх даравальных грамат вялікіх князёў і ўдзельных, у якіх дакладна вызначаюцца падаткі з двара ці чалавека, даруемага князем. Калі даніна вызначаецца з двара, то з двара яна і выплочваецца, і гэта адносіцца не толькі да дзякальных двароў, але і да даннікаў[101]. Больш таго, у тых жа валасьцях,



дзе сустракаем прамыя ўказанні на размяркаванне падаткаў, сустракаем люстрацыі, у якіх падаткі размяркаваны падворна, такая, напрыклад, Гомельская волась[102], ці даннікі Аршанскай воласьці[103], Ратненскага староства[104] і інш. Гэтыя факты цяжка растлумачыць. Першае ўражанне, якое атрымліваецца пры іх супастаўленні з дадзенымі пабытовага і юрыдычнага характару, якія маюць дачыненне да размяркавальнай дзейнасьці абшчыны, такое, што гэтыя факты супярэчаць заканадаўчым пастановам, якімі з’яўляюцца цытаваныя намі вышэй уставы валасьцям. Але ў дадзеным выпадку неабходна мець на ўвазе яшчэ некаторыя думкі. Калі разгледзець старажытнейшыя пастановы (а яны найбольш характэрныя), у якіх сустракаецца падворнае размеркаванне даніны, то, перш за ўсё, узнікае сумненне, якія дворышчы ў кожным асобным выпадку маюцца на ўвазе, г. зн. ці даруецца князем службовае баярскае дворышча, ужо раней

[99]. А. П-З. Р., т. І, стр. 3.

[100]. А. З. Р., ІІ, 368.

[101]. Напрыклад, людзі Шэршнэвічы ў Заўскай воласьці давалі на ключ Кіеўскі вядро мёду прэснага, Гл. Акты літ.-рус. дзярж., т. І, стр. 69; чалавек-даннік Бранскага павета даваў кадку мёду, вядро лоўчае, сокала на горад, Ibid., стр. 78; вёска Бабінавічы Смаленскага павету дае кадку мёду, 15 грошай, пасошчыну, куніцу, насадку мёду і піва і жыта (значыць дзякальнікі), Ibid., стр. 89, пар. даніну з даннікаў Житомірскага павету, стр. 117; з вёскі Жасковічаў у Мазырскім павеце ішло шэсць коп грошай, вядро і тры паўкалодкі мёду, 4 бабры, 2 куніцы, 13 грошай валошчыны і інш., стр. 118; з вёскі Тулеговічэй таго ж павету ішло усёй даніны на 10 коп грошай, Ibidem, стр. 119 і нек. інш.

[102]. Акты Віл. Арх. Кам., XIII, стр. 343 і наст.

[103]. Гл. Акты літ.-рус. дзярж., т. II, стр. 123 наст.

[104]. Арх. П-Зах. Р., ч. VII, т. 2 стр. 272 і наст.

вылучаннае з абшчыны, ці ж дворышча вылучаецца з абшчыны толькі ў дадзны момант самім актам даравання. Растлумачым на прыкладзе. Івашка Русініч прасіў у вялікага князя Аляксандра вёску Соміна ва Ўладзімірскім павеце. Гаспадар даручыў высветліць Васілю Хрэбтовічу, "какое то ёсць сяло, а што нам з яго плату ідзе". Вёска выявілася цяглай, з яго ішла вызначаная даніна. Але раней Соміна было ва ўладанні ўжо двух баяр Казарына і Цішка[105], і, такім чынам, на гаспадара з іх ніякіх падаткаў не ішло. Значыць, вёска ўжо даўно была вулучана із валасной воласьці (калі яна сама не з'яўлалася абшчынай), і, бяспрэчна, падаткі і павіннасьці пад час прыватнага ўласніцтва вызначаліся на яго незалежна ад абшчыннага размеркавання. Далей, часам грамата давалася на людзей ужо пасьля таго, як атрымліваючы яе ўступіў ва ўладанне людзьмі згодна наместнічага даравання[106]. Нарэшце,

-104-

агульнавядомы і той факт, што дараванне большай часткай шукаў сабе сам прасіцель і прасіў аб падцверджанні; зразумела, той хто шукаў зямлю з людзьмі павінен быў вызначыць перад гаспадаром і яе прыбытковасць[107], г. зн., тую частку даніны, якая была прызначана згодна абшчыннага размяркавання на прасімых людзей. Але пра сам працэс шукання земель у даравальнай грамаце згадваецца далёка не заўсёды; не заўсёды можна для кожнага адзінкавага выпадку высветліць, ці даруемая зямля і раней была службовай, ці вылучаецца ўпершыню із воласьці. Хаця мы часам сустракаем і непасрэднае вылучэнне земель з воласьці[108], але і тут патрэбна мець на ўвазе ўмовы даравання: гаспадар зацверджвае ці дараванне "да волі і ласкі гаспадарчае", ці знойдзеныя самім прасіцелем: у абодвух выпадках атрымліваючы можа пазначыць, якую даніну даюць прасімыя людзі.

Але яшчэ больш цікавы той факт, што само падворышчнае ці падымнае размяркаванне, зарэгістраванае скарбавай люстрацыяй, не выключае абшчыннага размяркавання. Так люстрацыя Рэваніцкай воласьці (даннікі Радашкавічскай воласьці) вызначае даніну падымна; не маючыя гаспадарчых прылад абкладзены так жа як і маючыя іх. Справа тлумачыцца дастаткова проста: на гаспадара ідзе агульная сума, а валашчане самі яе размяркоўваюць, згодна з маёмасным станам плацельшчыкаў[109]. Такое ж уладкаванне растлумачана люстратарамі Ратненскага староства[110] маёнтка Цітавян[111] і інш. Відавочна, люстрацыя размяркоўвала агульную ішоўшую з абшчыны суму падаткаў толькі прыблізна, для вызначэння сапраўднай прыбытковасьці ў

---

[105]. Гл. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 91-92.

[106]. Ibidem, напрыклад, стр. 55 і наст.

[107]. Пар., напрыклад, Ibidem, стр. 169; путныя людзі, напрыклад, былі аблыжна выпрашаны за цяглых, Ibidem, стр. 136; інш. факты пар. стр. 129, 127-128, 118 і інш.

[108]. Гл. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 16: "Іно яшчэ прыдалі есьма ў Бабруйскай воласьці... тры двары, што ў Чачэрскую воласць падалі ся былі".

[109]. Гл. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 118.

[110]. Даніна мядовая размеркавана па дымах, але Myodu dannego, wedlie dawnego zwiczayu, yaka na ktorego prisinaliesi і г. д., Арх. Паў-Зах. Р., ч. VII. Т. I. стр. 292.

[111]. А. Віл. К.. XIV, 11.

вызначаны момант; але гэта было толькі тэарэтычнае размеркаванне, а фактычнае было ўсётакі на абавязку саміх плацельшчыкаў.

Да гэтай пары гаварылася толькі пра дзяржаўныя падаткі. Але яны не настолькі абцяжарвалі населніцтва, як намеснічыя зборы. Дзяржаўца

-105-

збіраў свае прыбыткі не з воласьці, а з дыму, дворышча, службы[112]; валасьценскія прыбыткі вызначаліся пры гэтым разнастайнасьцю, якая магла служыць нагодай для розных злоўжыванняў і ўвядзення навін. Дзяржаўца ж збіраў свае прыбыткі не праз старца, а праз сваіх загадчыкаў і дзесятнікаў ці асабіста сам.

Невызначанасць намеснічых прыбыткаў, іхная разнастайнасць, давалі магчымасць розным злоўжыванням. Каб папярэдзіць уціскание сялян з боку памеснікаў, вялікі князь неаднаразова выдаваў уставы, якія вызначалі павіннасьцевыя адносіны сялян; часам самі сяляне прыходзілі сабе на дапамогу, заключаючы з намеснікамі пагадненні. Так, напрыклад, воласць Магілёўская заключыла пагадненне са сваім намеснікам князем Саломарэцкім: магілёўцы абавязаліся даваць князю штогадова 120 коп грошай шырокіх за вызваленне ад павозак, пасвення статку намесніка, ад старожы на намеснічыя патрэбы і інш.[113] Падобнае пагадненне заключыла і Мазырская воласць са сваім дзяржаўцам Андрэем Немировічам у 1510 годзе, хаця ён і не выканваў пагадненне[114]. Пагэтаму гаспадар,

-106-

разгледзеўшы справу, даў воласьці падрабязную ўставу. Характэрнай асаблівасьцю апошняй з’яўляецца наступная абставіна. Воласць абавязалася з горада і воласьці даваць дзяржаўцу па паўкапы з дыму. Але, выяўляецца, што і гэты падымны падатак размяркоўваецца воласьцю і пры гэтым не раўнамера прыпадае на кожнага плацельшчыка, хаця і была вызначана адзінка абкладання

---

[112]. Дарэчы, часам дзяржаўцы частку сваіх прыбыткаў бяруць з усёй воласьці, другую чстку (больш дробных) з сох і дымоў. Свіслацкая воласць скардзілася на свайго дзяржаўцу п. Неміровіча ў 1534 г. за ўвядзенне разнастайных навін, пры гэтым навінамі названы і валасьценскія прыбыткі з сох і дымоў. Гаспадар так вызначыў намеснічы прыбытак: “водле стара даўняга звычаю, як і за першых дзяржаўцаў нашых было: 10 каменей мёду, 8 ялавіц, 8 вепраў, 8 баранаў, а 2 бочкі солі, а з трох сох маюць даці па солянцы жыта, а па салянцы аўса, а па карцу круп, а з дыму па сыру, а па кураці, па 10 яек, а па фаску масла, а па вазу сена”. Гл. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, № 224, пар. №№ 241 і 235.

[113]. Гл. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, 235.

[114]. Падобныя агадненні не адзінкавыя. Із выраку паміж старастай жамойтскім М. Радзівілам і воласьцю Тандзягольскай выяўляецца наступнае. Атрымаўшы староства, Радзівіл сабраў прадстаўнікоў усіх валасьцей у свой маёнтак Кейданы і заявіў ім, “яж я па паседзен не хочу ездзіці, яка продкаве мае ездзілі для таго, іж вам з большаю шкодай і стратаю будзе, і больш бы вам выйшла, калі бысрэ мене падыймавалі. Дзе ж ся ім то падобало. А к канцу яшчэ ў кожнай воласьці па два ўраднікі бывалі – цівун а намеснік, а ад іх служкі два”. Радзівіл прызначыў у воласьці па аднаму ўрадніку, цівунскія прыбыткі “паказіў”. “І учынілам з імі ўгоду з усімі людзьмі і воласьці староства майго, палажылам на іх плат, як у валасьцях гаспадарскіх: з людзей ідзе на гаспадара яго міласьці із сахі па полукапью грошай, а к таму па бочцы аўса, па вазу сена, з дыму па кураці, па дзесяці яек.... і яны тое прынялі дабравольна, на што есьмі у кожную воласць лісты мае падаваў, а ім асобныя лісты даў, дзе ж яны на то прызволілі і ухвалілі, падняліся то плаціці”. Гл. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, 239. Дамовы магілеўскіх валашчан з дзяржаўцаю кн. Саломірэцкім гл. Ibidem, №№ 235 і 241.

– дым. Мяшчане і валасныя мужы абавязаліся плаціць і за сваіх маламаёмасных аднаабшчынікаў: калі плацельшчык не будзе ў стане плаціць падатак без таго каб для гэтага яму не давялося прадаць дзіця ці пакінуць воласць, то воласць абавязана раскінуць плацёж на больш багатых мужоў[115].

Дарэчы, патрэбна мець на ўвазе што не ўсе павіннасьці і наменічыя плацяжы, нават пры адсутнасьці пагаднення, размяркоўваліся самім ураднікам на асобных плацельшчыкаў: старожа, павозкавая павіннасць, замкавыя абавязкі і некаторыя іншыя павіннасьці размяркоўваліся самой воласьцю; таксама, калі дзяржаўца не прыязджаў у воласць, то атрымліваў падаткі з усёй воласьці[116].

Калі падаткі вызначаліся на ўсю воласць, то вельмі зразумела, што воласць пільна сачыла за ўсімі выпадкамі захопу валасных цяглых людзей суседнімі землеўладальнікамі. Пра ўсякія такія захопы воласць паведамляла гаспадара і выклікала на гаспадарчы суд захопніка[117].

Патрэбна адзначыць яшчэ адну рысу, тлумачэнне якой знаходзіцца ў самім характары адносін мясцовай адміністрацыі да воласьці. Урад часта не ведае, якому з бакоў можна верыць: ён не вельмі давяраў і сваім ураднікам і валашчанам. У 1525 г., напрыклад, гаспадар выдае загад старцам і мужам воласьці Магілёўскай, каб яны давалі цівуншчыну прама ў скарб; раней, гаворыцца ў лісьце, воласць давала цівуншчыну таму, каму князь даручаў; зараз, калі б нават канцылярыя і выдала каму-небудзь ліст на збіранне цівуншчыны, - воласць не павінна выдаваць і на такі ліст[118]. Ураду часта даводзілася сустракацца з крадзяжом скарбавых прыбыткаў яго ж чыноўнікамі[119].

-107-

Але і прадстаўнікі ўрада зорка пільнавалі слабыя бакі валаснога ладу. Калі воласць не своечасова плаціла падаткі, знаходзіўся жадаючы ўзяць воласць на ўтрымане для больш сваечасовага спагнання падаткаў. У 1528 г. Сігізмунд I аддаў на ўтрыманне Багдану Шалусе Горвальскую воласць, таму што яна, згодна справаздачы таго ж Шалухі, несвоечасова выплочвала падаткі: дзяржаўца павінен быў выбіраць падаткі і аддаваць у скарб агульную суму, якая прыпадала на воласць, “врокам”[120].

Папярэдняе выкладанне высвятляе два бакі адной і той жа фінансавай дзейнасьці абшчыны. Але ў воласьці быў яшчэ адзін бок той жа дзейнасьці – асабістыя валасныя патрэбы, на якія патрабаваліся размяркаванні паміж валашчанамі.

Няма неабходнасьці паўтараць тут тое, што гаварылася раней аб праве воласьці рабіць размёты на свае патрэбы. Воласць мела і свае “валасныя пянезі”.

---

[115]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 144-146.

[116]. Гл. напрыклад, Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 173.

[117]. Ibidem, стр. 61 і інш. Леантовіч, № 319.

[118]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 198.

[119]. З Бабруйскай воласьці ў 1523 г. да скарба не дайшлі падаткі, пазначаныя ў рэестрах: “а перад тым не толькі з тое воласьці дані выхажывала, аб чым жэ мы добра вемы і рэістра онае сумы і цяпер у нас суць”, а пісары пабралі сабранае сабе. Кн. Зап. Літ., XV, л. 102-103. (Акты літ.-рус. дзярж., т. I, № 219).

[120]. Ibidem, стр. 206.

Нагадаем, што і ў гэтую сферу дзейнасьці абшчыны пранікае ўрадавая апека і спрабуе, на аснове розных падстаў, абмежаваць валасную самастойнасць.

На счасьце нашы крыніцы захавалі нам тое-сёе са звестак аб тым, якія часам у воласьці былі патрэбы, на якія яна збірала сродкі. У 1540 г. падданыя вёскі Лебядзева Берасьцейскага павету разбурылі млын, пабудаваны пушкаром берасьцейскім Маркам Зубрыцкім на зямлі, якую яны лічылі спрэчнай. Стараста п. Аляксандр Хадкевіч прысудзіў з усёй вёскі на карысць Зубрыцкага за гвалт 40 коп грошай; 30 коп яны заплацілі грашамі, а за 10 коп заклалі Зубрыцкаму дзве нівы. Пра сваё замірэнне з Зубрыцкім падданыя лебядзеўцы склалі ліст вызваны[121]. У гэтым дакуменце захавалася адна з нагод, калі валашчанам спатрэбілася выкарыстаць самаабкладанне. Часам і сама воласць, нарыклад, згодна судовага рашэння атрымлівала тую ці іншую суму. Так, у 1555 г. старац магілёўскі Андрэй Пячора з іншымі прадстаўнікамі воласьці прасіў запісаць у кнігі канцылярскія, што воласць атрымала задавальненне ад баяраў Радкі Шчаўкановіча і Сямёна



Катла ў колькасьці 104,5 коп грошай[122]. На жаль, заява сялян не тлумачыць, чаму такая значная сума была дадзена воласьці баярамі, але, патрэбна думаць, яна была прысуджана за нейкую ганьбу ці страту.

Зразумела, што такімі выпадковымі паведамленнямі не вычэрпваюцца ўсе нагоды, калі воласць збірала грошы на свае патрэбы, ці сама іх атрымлівала. Мы не можам і чакаць багацця падобнага роду фактаў ад кніг дзяржаўнай канцылярыі, якія дайшлі да нас. Можна адзначыць яшчэ, напрыклад, што абшчына мае свой перавоз і бярэ з яго мыта[123], мае сваю абшчынную царкву[124], нарэшце млын[125]. Але і гэтага дастаткова, каб пабачыць, што абшчына была не толькі дзяржаўнай фінансава-адміністрацыйнай адзінкай, але мела і асабістае кола дзейнасьці.

Галоўным бокам абшчыннага жыцця, бясспрэчна, было валоданне зямлёй. Вырашэнне гэтага пытання самае цяжкае для кожнага дасьледчыка заходне-рускай абшчыны. Звычайна прызнаецца, што ў Заходняй Расіі пераважаючай формай сялянскага землеўладання ўжо з паловы XV ст. з’яўлялася дворышча, служба з сямейна-радавым характарам. Мы сустракаем у актах дворышчы, якія мелі вызначаную сямейную дзялянку, з якой ішла вызначаная служба. Калі дворышча фарміравалася такім чынам, то тут, верагодна, няма месца абшчыннаму землеўладанню, ва ўсякім разе ворнай зямлёй. Аднак патрэбна адрозніваць такія дворышчы і службы, якія з нейкай нагоды былі вылучаны з

---

[121]. Кн. Зап. Літ., XIII, л. 28 об.-29 об. Разбурэнне млына было зроблена, бясспрэчна, згодна пастановы ўсёй грамады. Прыклады падобных пастаноў вядомы і із іншых дакумнтаў, гл., напрыклад, Арх. Кн. Сангушак, IV, стр. 174.

[122]. Кн. Суд. Спр. Літоўск., XXXIV, л. 87.

[123]. Леантовіч, Акты Метрыкі Літоўскай, I, № 381.

[124]. Акты літ.-рус. дзярж., т. II, стр 119. (Радашкавічская воласць).

[125]. Ibidem, стр. 116: “Раванічы... пры ім рэчка ад вёскі на паўмілі, завуць Уша, на каторай ёсць стаў і млын меле, ніжлі воласць Раваніцкая самі сабе той стаў занялі і на іх жа меле, а ад чужаваласьценцаў завозу няма”.

абшчыны; пагэтаму неабходна звярнуцца да неразбуранай абшчыны. Вышэй намі быў паказаны грамадзкі вырак людзей Любашанскай воласьці аб выбары старца. Гэты вырак заканчваецца наступнай пастановай тыж жа мужоў: “Ітак ся есьма яго міласьці гаспадару падвязалі: іж каторыя землі пустоўскія ў той воласьці Любашанскай ёсць, мы тыя землі на сябе разабраці хочам. А маем з тых зямель гаспадару яго міласьці ў кожны год даніну мядовую, і грашовую, і бабры і куніцу

-109-

ўсё спаўна выдаваці да скарбу яго міласьці па старому”[126]. Прыведзены факт не дае вызначанага адказу на пытанне аб характары абшчыннага землеўладання. Із яго зразумела толькі адно, што да воласьці цягне вядомая нераспрацаваная тэрыторыя, якую сяляне вырашылі “разабраць” па службах; за ўзятую зямлю яны абяцаюць даваць на гаспадара належачую колькасць даніны; больш таго, абшчына лічыць патрэбным паведаміць аб гэтым гаспадару. Вядомы і іншы аналагічны выпадак: сяляне полацкага ваяводы Яна Глябовіча б’юць чалом свайму пану аб дазваленні падзяліць паміж сабой усе землі і даніну размяркаваць пароўну па службах; ваявода дазволіў ім падзел, але ў прысутнасьці свайго загадчыка[127]. Можна, дрэчы, паказаць і на тое, што не заўсёды сяляне паведамлялі гаспадару пра зробленыя імі разам разробкі: у Пінскім старастве вялікі князь

-110-

даў зямлю ў нейкай воласьці Святохне; але выявілася, што сяляне “разрабілі” гэтую зямлю на сябе і вялікі князь даручыў знайсьці Святохне зямлю і іншым месцы[128]. Нашы звесткі могуць быць растлумачаны і ў тым сэнсе, што сяляне, разрабіўшы на пашню абшчынны лес ці выган, дзялілі яе паміж дворышчамі,

---

[126]. “Мы мужы Любашанцы, па даручэнню ўсёй воласьці Любашанскае вызнаваем сім нашым лістом, - Ясь з Кекерава, Панко са Стаял(?), Мышко з Кожыч, Слуца Высокі, Сымон з Сушы, Сарока з Хочыч, Дораш Старынчыч, Платон з Варыкошыч, Ян з Далеп, Сымон Старынчыч, Андрэй Харахоўскі з Дабрылавіч, Фама Мас (з) Дабрылавіч, Даніла Сланковіч з Далеп, Макей з Высокіх, Ілейка з Брасневіч, Тоўсты з Доўгаед, Селівон, старац, з Лешніцы, Прыкры ў Любашанах, Аўсей Семяновіч (з) Любашан – абабралі есьма ўсі васпалок старцам чалавека воласьці Любашанскае ж на імя Селівона Хласовіча. І так ся есьма яго міласьці гаспадару падвезалі: іж каторыя землі настаўскія (відавочна пустоўскія) у той воласьці Любашанскай есць, мы тыя землі на сябе разабраці хочам а маем з тых зямель гаспадару яго іласьці ў кожны год даніну мядовую і грашовую і бабры і куніцу – усё спаўна выдаваці да скарбу яго міласьці па старому. І на то далі есьма сей наш ліст пад нашым кляйны. Пісан у Вільні пад лета бож. нарадж. 1500, месяца сакавіка 9 дзень, індыкт 7”. Кн. Суд. Спр. Літ. VII,л. 115-115 об.

[127]. Факт прыведзены ў Любаўскага, Абласны падзел, стр. 471. Паказваем гэты важны дакументы: “пра памяць пан яго міласць (ваявода полацкі) казаў у кнігі запісаці: што ж білі чалом яго міласьці людзі ўсі воласьці Гатлянскае і Гасьцілаўскае, абы яго міласць дазволіў ім усі іх землі пашныя і бортныя і даніну мядовую і грашовую на роўныя часткі межы ніх параўнаваці і па службах падзяліці. І пан яго міласць то ім дазволіў перадураднікам сваім сее вясны ўчыніці. І як учыняць аб тым казаў яго міласьці да сябе ім адпісаці. А каторыя палавіцы дзевятае меры дані мядовае і грашовае, то колькі лет пану яго міласьці не давалі, - кгды ся ў землях параўнаванне межы ніх стане, на он час усі людзі Гатлянскія будуць павінны пану яго міласьці тую даніну, каторая ў іх колькі гадоў пагінула, споўніці, а за ўтаенне і за неаддаванне тэж даніны хмелевае маюць паўтрэці коп грошай заплаціці. Пісан у Гатлянах, пад лета бож. нарадж. 1538, месяца снежня 15 дзень, індыкт 12”. Кн. Зап. Літ. XVI, л. 283.

[128]. Рэвізія пушч і пераходаў звярыных стр. 277. Пра неабходнасць дазволу для арання ў гаспадарскай пушчы гл., напрыклад, Леантовіч, Акты, стр. 140.

службамі, на чым і заканчвалася ўлада абшчыны над абшчыннай зямлёй; але і такое меркаванне не зусім тлумачыць іншыя факты. Вядомы, напрыклад, выпадкі, калі вёска, нават прыватнаўласніцкая, вылучала частку зямлі на царкву, як следства абшчыннай пастановы[129], ці выпадкі, калі звыш зямлі, падзеленай на службы, заставалася яшчэ пашня, якую сяляне апрацоўваюць разам [130]. Падданыя вёскі Лебедзява, пастанову якіх па справе з Зубрыцкім мы цытавалі вышэй, вылучылі апошняму ў заставу дзве нівы[131]. Але тут паўстае пытанне: якія нівы яны вылучылі? Ці яны вылучылі такія нівы, якія апрацоўваліся ўсёй вёскай разам, ці



яны вылучылі нівы сваіх аднаабшчыннікаў; у апошнім выпадку, каб ураўнаважыць унёскі на абшчынныя патрэбы, яны павінны былі перадзяліць застаўшуюся зямлю вёскі паміж сабой. Але для нас тут мае значэнне тое, што вясковая абшчына лічыць сябе прамацнай распараджацца абшчыннай зямлёй, незалежна ад таго падзелена яна паміж дворышчамі ці не.

Калі цяжка знайсці дадатныя факты, якія б яскрава паказвалі на спосабы абшчыннага землекарыстання ворнай зямлёй, то затое адносна сельска-гаспадарчых добраў справа выглядае зусім інакш. Кожная вёска  ці некалькі вёсак мелі землі бортныя, бабровыя гоны, лес, выганы, якія цягнулі да іх. Гэтымі добрамі яны распараджаліся супольна, і калі хто-небудзь парушаў іх права ўладання, то ўся абшчына бараніла сваю зямлю. Так, у 1529 г. пан Ваганоўскі судзіўся перад вялікім князем з людзьмі пужыцкімі і токараўскімі (у Берасьцейскім павеце): людзі гэтых двух вёсак не дазвалялі яму мець уступ і ўезд распрацоўваць новую пашню ў пушчы Пужыцкай. Але Ваганоўскі з дапамогай сведак даказаў, што гэтыя пушча і зямля “здаўна паспалітыя”, што пушча “спольная” пужычан і токараўцаў з яго людзьмі. На аснове гэтага суд вынес такую пастанову, што пушча павінна знаходзіцца ў агульным карыстанні двух пазначаных вёсак і людзей пана Ваганоўскага: ”адзін без другога волі не мае нікаму дрэва з тое пушчы даваці, распашы маюць сабе ў той пушчы араці, а

---

[129]. Некалькі фактаў прывёў праф. Уладзімірскі-Буданаў, якія заснаваны на пісцовых кнігах Пінскага староства, op. cit., стр. 378.

[130]. Пісц. Кнігі Пінскага староства, II, стр. 242.

[131]. Мы мужы гаспадарскія Лебядзеўцы Ялуц Міцковіч, старац, а Алісей Міхалковіч і Федзька Панасовіч, Кузьма Кавалевіч, Мацко Панасовіч, Арцім Александровіч і Міц Ігнатовіч з усімі патужнікамі нашымі вызнаваем сім нашым лістом самі па сабе пану Марку Зубрыцкаму, пушкару замку Берасьцейскага, што яго міласць пан Аляксандр Янавіч Хадкевіч, стараста Берасьцейскі прысудзіў на нас пану Марку за гвалты сорак коп грошай. Іно ўжо есьма яго міласьці заплацілі трыццаць коп грошай, а дзесяць грошай на нас яшчэ засталося, ніжлі мы бачачы труднасць і ўпадак наш, штож пянезей так скора дастаці не маглі, чым быхма мелі і тую дзесяць коп грошай заплаціці, і прасілі есьма яго міласці, абы ён узяў у нас у заставе ў тых дзесяць коп грошай дзве палі з жытам. Якаж яго міласць бачачы нашу труднасць і ўпадак узяў яго міласць тыя два палі ў тых дзесяці коп грошай у заставе, каторае ж адно поле ад Дабротыч, едучы да Капытава, налева за дарогаю ўперла ў самы стаў пана Марка ў рэку Карошчыну, а другое поле... дзеж есьма пану Марку яго міласьці тая обе паля перад віжам замкавым завялі, не аставуючы іх нічога на сябе. І мае яго міласць тыя палі да тых пор дзяржаці, покі яго міласьці пянезі вышэй пісаныя аддамо. А калі быхма пянезі не аддаўшы а ў палі тыя чым кальвек уступаваці ся мелі, тагды маем пану Марку з савітасьцю тыя пянезі заплаціці, а на замак віны дзесяць коп грошай аддаці, - далей ідуць подпісы сведак. 1540 г. 20-га студзеня. Кн. Зап. Літ. XIII, л. 28 об.-29.

адзін у другога дзялянкі, як старыя, так і новыя не маюць ся ўступаваці"[132]. Такім чынам, сяляне абараняюць добры, якія знаходзіліся ў карыстанні двух вёсак; але раней з імі ў саўладанні, відаць, былі людзі Ваганоўскага, педак тым як апошні не атрымаў іх у дараванне ад караля. Пужычане і токараўцы хацелі выкарыстаць пераходам сваіх аднаабшчыннікаў да прыватнага землеўладальніка, але суд вырашыў інакш.

У крыніцах мы неаднарозова сустракаем аналагічныя выпадкі. Пакажам яшчэ на некалькі з іх. Так, у 1495 годзе людзі Гражане шукалі перад вялікім князем на ключніку Льву Багавіцінавічу зямлю палазную і востраў Чартовічы[133]; людзі не даказалі свайго права і зямля засталася за ключнікам. У тым жа годзе вялікі князь разглядаў цяжбу Раслаўскай валасьці з



Барысам Сяменовічам. Воласць абвінавачвае апошняга ў тым, што ён заняў сем вёсак із воласьці без гаспадарчага даравання; далей, воласць паказвае на тое, што Семяновіч захапіў іхную дубраву, гарадзкі выган[134]. Абодва абвінавачванні і ў дадзеным выпадку не мелі поспеху, таму што ў абвінавачваемага выявіліся даравальныя лісты. Людзі токараўскія Берасьцейскага павету маюць, напрыклад, свае землі ворныя, бортныя і сенажаці, якія абараняюць усёй вёскай[135]. У Ратненскім старастве грамада валодае востравам[136]. Людзі Дубляне Гарадзенскага павету спалілі палац Цішкі Грынковіча, сцвярджаючы, што ён пабудаваў палац на іхнай "уласнай" зямлі[137]. Сяляне Берасьцейскага павету шукаюць сваёй "атчыннай" зямлі[138].

Калі ідзе гаворка аб такім важным і спрэчным пытанні, як абшчыннае землекарыстанне, даследчыку даводзіцца быць вельмі асьцярожным у сваіх высновах. Патрэбна браць у разлік і недастатковасць гістарычных звестак, і іх не вызначанасць, і, нарэшце, сведчанні процілеглага напрамку. Із апошніх, напрыклад, важнае значэнне мае тая абставіна, што цяжка, відаць, абараняць права абшчыны на выдзяленне зямлі нановапрыбыўшым яе сябрам: зямлю выдзяляе гаспадарскі намеснік, ці яго загадчык[139]. Прамых дадзеных у гэтым накірунку шмат – гэта так – але яны паслабляюцца некаторымі разважаннямі. Зараз нам знаёмы такія факты, што гаспадар паведамляе валаснога старца, як прадстаўніка абшчыны, пра вылучэнне службаў і людзей са складу абшчыны і т. п. пераменах; з іншага боку ўраднік ці яго служка прыязджае ў воласць толькі ў вызначаныя тэрміны, ці нават зусім не мае права ўезду. Відавочна, што ў

[132]. Кн. Зап. Літ. XVII, л. 64-66.

[133]. Леантовіч. № 169.

[134]. Ibidem, № 200. Кн. Зап. Літ., V, л. 42.

[135]. Кн. Зап. Літ., XXV, л. 68.

[136]. Арх. Паў-Зах. Р., VII, т. 2, сір. 293.

[137]. Кн. Зап. Літ., V, л. 50.

[138]. Кн. Зап. Літ., VI, л. 74.

[139]. "А муж прыйшоў на Караеўскую зямлю і прыкладаў слузе яго (намесніка) Скурата і прасіў маёнтак, і ён маёнтак не знайшоў". (Акты літ.-рус. дзярж., т. I, № 199). Падданы гаспадарскі біў чалом Яну Радзівілу, дзяржаўцу ваўкавыскаму, і "прасіў нас аб зямлі пустаўской на імя... і мы тую зямлю яму пустаўшчыну далі, на каторай, ён паведзіў, іж хароміны няма", - чаму ж дадзена ільгота на 3 гады. Кн. Суд. Спр. Літ., VI, л. 315.

апошнім выпадку ўрадніку не вельмі лёгка раздаваць зямлю ў воласьці, шукаць яе і інш.; больш таго, воласць адбывае павіннасьці і за

-113-

пустуючую зямлю і ёй, натуральна, патрэбна клапаціцца пра яе апрацоўку, хаця і пытаючы кожны раз дазвол ва ўрада. Але вельмі зразумела, што ўрад імкнуўся захапіць раздачу валасной зямлі прыхожым людзям: ён атрымліваў паклон за выдаванне зямлі, ён імкнуўся да апекі над над сялянамі. Далей, аб дзейнасьці ўрада па раздачы зямлі мы сустракаем некаторыя звесткі, а аб дзейнасьці старцаў мы не маем звестак, таму што абшчына я не вяла падобных запісаў. Дарэчы, у апісанні Дубровенскай воласьці 1560 г. мы маем прамое ўказанне на тое, што менавіта старац "водле ўставы гаспадарскае" распараджаецца пустаўскімі землямі, асажвае іх [140], але наўрад ці ўстава ўскладала на прадстаўніка абшчыны нейкі новы абавязак.

Але вось на што патрэбна звярнуць увагу. У палавіне XVI ст. урад пачынае важную фінансавую рэформу з мэтай удакладніць прыбыткі, якія ішлі з гаспадарскіх земель і знайсці новыя пажыткі для скарбу. Рэформа рабілася ў той час, калі адміністрацыйная апека і праізвол урада ў валасьцях дасягнулі вельмі значных памераў. Пачынаючы з 20-ых гадоў урад выдае цэлы шэраг устаў асобным валасьцям, якія мелі на мэце аднавіць "старыну" у адносінах абласной адміністрацыі да сядян, дакладна вызначыць падаткі і павіннасьці, якія ішлі і ў скарб і на ўрад. Але ўсе гэтыя цыркуляры не мелі практычнага значэння: скаргі сялян на дзяржаўцаў і іхных служак к палавіне стагоддзя сутракюцца ўсё часьцей. Гэта абставіна, у сувязі з новымі гаспадарчымі поглядамі, разладам скарбу, прывяла ўрад да думкі аб неабходнсьці радыкальных рэформ у гаспадарскіх маёнтках. Рэформа выявілася ў паўсюдным увядзенні валочнай памеры ў заходніх абласьцях дзяржавы і ў рэгістрацыі службаў і дворышч – ва ўсходніх. Помнікі, якія маюць дачыненне да гэтай "рэвізіі", не тлумачаць таго, якім чынам сяляне карысталіся зямлёю да яе. Адной із мэт гэтай рэвізіі было паставіць кожнага асобнага плацельшчыка тварам да скарба; пагэтаму кожны кавалак зямлі павінен быў

-114-

мець свайго гаспадара, за якім мог бы назіраць скарб. Пры такіх умовах абшчына не можа распараджацца надзельнай зямлёй. Аднак, у адносінах да пазанадзельнай ворнай зямлі і да добраў помнікі рэвізіі пераканаўча сведчаць за тое, што сярод сялян укараніўся звычай карыстацца, ва ўсякім разе, гэтымі землямі супорльна. Так, няма ніводнага із вядомых да гэтага часу апісанняў староствау, у якіх бы нельга было сустрэцца з фактам карыстання усёй вёскай дзялянкамі звыш надзельнай ворнай зямлі[141]; не гаворачы ўжо пра бортныя

[140]. Віл. Археагр. Зб., III, стр. 276, 277. Аднак, тут жа, у другім месцы, абавязак клапаціцца аб засяленні пустых зямель ускладзена на замкавы ўрад (стр. 263), што не супярэчыць адно другому; бяспрэчна і ўрад заклапочаны павелічэннем "пажыткаў скарбавых", засяленнем валасьцей, урад назірае за раздачай зямель.

[141]. Так, гл. Берасьцейскае стараства (Доўнар-Запльскі, Акты літ.-рус. дзярж., т. II, р. 261 і passim), Кобрынскае стараства (Рэвізіі Кобрынскай эканоміі, выд. Віл. Арх. Кам., стр. 38 і інш.), Троцкае стараства,

землі, рыбныя ловы і г. д., якія часта знаходзіліся ў супольным валоданні нават некалькіх вёсак[142].

Устава выдадзеная ў 1594 годзе для Магілёўскай воласьці, ужо падзеленай на валокі, калі новы лад ужо налічваў за сабой некалькі дзесяцігоддзяў, за абшчынай аднак захавалася супольнае карыстанне добрамі. Бабровыя гоны знаходзіліся ў агульным карыстанні ўсёй вёскі. Бортная гаспадарка таксама знаходзілася пад кантролем усёй вёскі ці кола, пры гэтым абшчына часам дзеліць яе паміж сабой, але можа карыстацца і без падзелу.

Узважваючы ўсе звесткі адносна абшчыннага землевалодання, нельга не адзначыць, што яны яшчэ не даюць права на цалкам вызначанае заключэнне, як следства іхнай непаўнаты і невызначанасьці. Пакуль відавочна адно, што ў вясковай абшчыне шырока распаўсюджаны звычай супольнага карыстання сельска-гаспадарчымі добрамі, бортнымі і ншымі землямі; не менш вядома таксама супольнае карыстанне дадатковымі зямельнымі дзялянкамі, пустаўшчынамі. Абедзве катэгорыі зямель сяляне часам дзеляць паміж сабой, па службах, але ў некаторых выпадках карыстаюцца і без падзелу[143]. Цяжэй вызначыць характар удзелу абшчыны ў выдзяленні зямлі і асабліва спосабы карыстання дзялянкавай зямлёй, хаця ў некаторых выпадках улада абшчыны пашыралася і на перадзел усёй тэрыторыі.

Важна адно, што тую ці іншую зямлю абшчына лічыць сваёй і абараняе яе ад захопаў не тая ці іншая асоба, але ўся абшчына. Улада



абшчыны распаўсюджвалася ў экстрэнных выпадках і на перадзел зямлі. Гэтая абставіна, хаця і мала асвечаная звесткамі, дазваляе, аднак, думаць, што абшчынная сувязь была моцнай і рспаўсюджвалася і на зямлю, якою асобна валодаюць абшчыннікі. Іншае пытанне, ці мела абшчына юрыдычнае права згодна як з тагачаснага так і сучаснага гледжання, лічачы сябе размяркавальніцай абшчыннай зямлі. Праўда, сяляне называюць сваю зямлю “власнаю”, “атчызнаю”[144], але іхныя словы патрэбна разумець вельмі адносна, прымаючы да ўвагі ўмовы тагачаснага землевалодання. Сялянскае землеваладанне на гаспадарскай зямлі - гэта, перш за ўсё, служба. І з гэтага боку сялянскую службу можна суаднесьці са службаю ўсякага служывага чалавека. Як апошні распараджаўся сваёй зямлёй свабодна настолькі наколькі гэта не перашкаджала вызначанаму адбыванню службы – таксама і слянін ці сялянская абшчына маглі распараджацца сваёй зямлёй у межах, якія не парушалі інтарэсаў службы, г. зн. інтарэсаў гаспадарскага скарбу[145]. З нашага боку гледжання такое

(Віл. Арх Збор., VIII, стр. 118, 39 і інш.), Дубровенская воласць (Віл. Арх. Збор., III, стр. 270, 275 і інш.), Гомельскае стар., (Акты Віл. Археагр. Кам., XIII, 347 і інш.).

142. Напр., А. Віл. Арх. Кам., XIII, 354 і інш.

143. Віл. Арх. Збор., I, стр. 194-195.

144. Гл., напрыклад, Рэвізія пушч, стр. 248.

145. Гл., напрыклад, характэрны матыў дазвалення людзям на мену зямлі з суседнім землеўласнікам у Кн. Зап. Літ. л. 62, ці Акты Віл. Арх. Кам., т. XVII, стр. 3.

карыстанне зямлей не будзе поўным уладаннем, але мы павінны прыстасоўвацца да ўмоў таго часу.

Зразумела, што пры ўсім гэтым патрэбна мець на ўвазе, што заходне-рускае сялянства не было аднароднай массай. Насупраць, яго разнастайнасць, адрозненне службаў ляжачых на ім, а як следства гэтага і яго правоў, былі вельмі значнымі. Пагэтаму нам патрэбна паставіць і такое пытанне: сярод якога стану земляробчага насельніцтва сустракаюцца прызнакі абшчыннага жыцця, разгледжанага вышэй.

Калі сабраць звесткі крыніц, цытаваных вышэй, то выявіцца, што сяляне якія ўступаюць у іх, усе, за выключэннем нешматлікіх сумнеўных выпадкаў, належаць да стану так званных даннікаў. Калі вызначыць геаграфічна мясцовасьці, да якіх адносяцца гэтыя крыніцы, то прыйдзецца зрабіць выснову, што большасць з іх адносіцца да так званых Прыдняпроўскіх і Задзвінскіх валасьцей і параўнальна не шмат да заходніх валасьцей. Такім чынам, перад намі два пытанні аб тым, што



такое даннікі і чаму гэтыя даннікі, як абшчына, выступаюць ва ўсходніх абласьцях Літоўска-рускай дзяржавы.

Гэтыя пытанні настолькі складаныя, што больш менш падрабязнае іх вывучэнне не можа быць уключана ў задачу гэтага артыкула: пагэтаму, абмяжуемся толькі некалькімі заўвагамі.

Павіннасьцевыя адносіны заходне-рускага сялянства вызначаюцца незвычайнай разнастайнасьцю, абцяжарваючай дакладнае іхнае вызначэнне. Даннікі, ва ўсякім выпадку, адрозніваюцца ад цяглых людзей; прызнак цяглага чалавека той, што ён ходзіць “з сярпом і касою” дае дзякло. Становішча данніка, перш за ўсё, вызначаецца данінай. Даніна – гэта асноўная павіннасць данніка, незалежна ад таго сядзіць ён на гаспадарскай ці прыватнай зямлі. Часам павіннасьцевыя адносіны данніка і абмяжоўваюцца толькі адной данінай[146], але часьцей на данніках ляжыць і вызначаная частка цягла. Так даннікі часам абавязаны валачыць возера, касіць сенажаць[147]. Але галоўнае цягла даннікаў на гаспадарчых землях – павозкавая і гарадавая павіннасьці[148]. Параўнальна рэдка і то ў больш познія часы, можна сустрэць даннікаў, якія адбываюць прыгоны і талокі[149].

Калі звярнуцца да найбольш старажытных звестак, напрыклад, да запісаў дараванняў Казіміра і некаторым іншым, то ў іх мы знойдзем данніка, абавязана толькі данінай[150]. З іншага боку сяляне-даннікі вельмі часта аспрэчваюць права намеснікаў прымушаць іх касіць сена і інш., называючы такія павіннасьці

[146]. А. П. і З. Р., I, 127: “а заплаціўшы гэтую вышэйпісаную даніну, тры пуды мёду і грошай з данінай асьмнаццаць, і к таму ж сярэбшчыну ад паўпяты сахі заплаціўшы... не павінны ўжо нікаторае службы, ані дачкі іншае нікаторае даваці”. Пар. Дубровенская вол., Віл. Арх. Зб., III, Гомельская, А. Віл. Кам., XIII, і інш.

[147]. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, напр., стр. 76 і інш.

[148]. У цытаваных вышэй уставах валасьцям – passim.

[149]. Напр., Радашкавічскія даннікі ходзяць касіць сена, Акты літ.-рус. дзярж., т. II, стр. 110 і інш.

[150]. Кніга данін Казіміра падрукавана мною ў II т., Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр 1 і наст.

навіной, хаця апошняя і не заўсёды выяўляюцца такой з боку гледжання суду[151]. Вельмі верагодна, што натуральныя павіннасці з'явіліся ўжо толькі першай прыступкай да запрыгоньвання,

-117-

не уваходзячы раней палавіны XV ст., у абавязковую прыналежнасць службы даннікаў.

Значна цяжэй вызначыць характар асабістай залежнасьці данніка: ці быў даннік чалавек перахожы, ці ж ён быў прымацаваны да зямлі. Праўда, што ўжо ў запісах зямельных дараванняў вялікага князя Казіміра сустракаем дараванне даннікаў[152], хаця гэтае дараванне і можа быць зразумела ў сэнсе простай прадачы права збірання даніны[153]. Але, з іншага боку, часам прыватныя ўладальнікі лічаць сваіх даннікаў "звечнымі", "старымі", "отчычамі", "дзедзічнымі", "атчызнымі"[154], часам яны забаранялі даннікам пакідаць зямлю[155]. Але падобныя выпадкі хутчэй выключэнне, чым агульнае правіла: сама забарона пакідання зямлі ўжо гаворыць аб існаванні такога звычаю. Акты пачатку XVI ст. вызначана называюць толькі адзін стан сялян, якіх уладальнік лічыць прыгоннымі і можа вышукваць – гэта цяглыя отчычы: дастаткова землеўладальніку даказаць, што такі-та яго чалавек хадзіў з касой і сярпом на панскую працу, даваў дзякло, - і суд выдаваў такога селяніна ўладальніку. Але з

-118-

іншага боку, калі селянін захоча даказаць, што ён мае права адыходу, то ён называе сябе вольным, перахожым.

Звяраючыся да крыніц, якія гавораць ад данніках, сябрах воласьці, нельга не адзначыць таго агульнага ўражання, узнікаючага пасьля іх вывучэння, якое зводзіца да таго, што сябры валасной абшчыны мелі вызначанае права адыходу. Крыніцы часта згадваюць, што сяляне разышліся з воласьці, разыходзяцца праз уціскі намесніка, разыходзяцца ў вялікай колькасьці і не толькі на суседнія

---

151. Гл. напр., скаргу Свіслацкай вол., Акты літ.-рус. дзярж., т. I, № 224, скаргу Азярышчынскай вол., ibidem, стр. 76 і інш.

152 . Акты літ.-рус. дзярж., т. II, стр 1-72, passim.

153. Напр.: Манастыр Св. Тройцы ў Смаленску мае кадку мёду "з ппграба нашага". Але тут жа перадаецца змест граматы Аляксандра, якою давалася права манастыру браць кадку мёду з данніка Майкоўскага з брацьцяю. Такім чынам, хаця даравальнай граматай манастыру надавалася права збіраць даніну з пазначанага чалавека, але фактычна атрымліваў яе ад урада з пограба. Відавочна, што асабістай залежнасьці плацельшчыка ад манастыру быць не магло. Акты літ.-рус. дзярж., т. I, стр. 135. Пустынскі манастыр у Крычаве атрымаў даніну "з вёскі Крычаўскай на імя Лабковічаў"; людзі павінны былі аддаць даніну ў манастыр, але сярэбшчына і іншыя "паплаткі" пакінуты на гаспадара; Ibidem, стр. 137. Нарэшце, у Гомельскім старастве сустракаюцца адзінкавыя даннікі, з якіх даніна ідзе на царкву, але ў той жа час, яны абкладзены і дзяржаўнымі падаткамі. Гл. XIII т. Актаў Віл. Кам., стр. 643 наст. Ва ўставе Бабруйскай воласьці знаходзім прамае ўказанне з падобнай нагоды: гаспадар параздаваў людзей воласьці панам, "вялелі есьма ім даніну мядовую на сябе (паноў) з іх (людзей) браці, а даніну грашовую і бабаровую і куніцы... на нас даваці". Кн. Зап. Літ., XV, лл. 102-103. Па справе Калчычан і Зубарэвічэй, якія належалі Яну Радзівілу і В. Кастэвічу, гаспадар прысудзіў людзям адбываць працы з воласьцю Бабруйскай, дапамаць ім ва "ўсякіх размётах", - "ніжлі толькі тыя людзі маюць сваім панам даніну даваці, што на іх прыдзе". Кн. Суд. Спр. Літ., IV, л. 266 об. Значыць, гаспадар даваў пану з даннікаў толькі даніну.

154. А. П. і З. Р., I, 49, 58; А. З. Р. I, 186; Акты Віл. Кам., XIII, р. 337. Арх Збор. Віл., VII, 3.

155. А. З. Р., I, стр. 113.

гаспадарскія землі, але і на панскія[156]. Дзяржаўцы, уціскаючыя валашчан, маглі б перашкодзіць свабодзе адыходу, але, відаць, не лічаць сябе ў праве рабіць гэта.

Праўда, урад часам робіць захады да вяртання адыйшоўшых даннікаў, але нельга не адзначыць, што гэтыя захады былі хутчэй гаспадарчымі, чым юрыдычнымі. Цэнтральны ўрад імкнецца сцішыць рабаванне ваявод, разыйшоўшымся раіць даваць ільготы ў выпадку іхнага вяртання на старое месца[157]. Уявім, той жа ўрад спрабуе выдаць загад аб вяртанні

-119-

разышоўшыхся падданых, але вядомыя нам граматы з падобнай нагоды маюць на ўвазе фіскальныя захады, а не юрыдычныя. Ліст, выдадзены з нагоды скаргі бабруйскіх валашчан, узгадвае пра "хітрыя звычаі" некаторых із сялян: карыстаючыся цэлы год зямлёй, некаторыя з іх ідуць у іншыя воласьці, калі надыходзіць тэрмін збірання падаткаў, а праз некаторы час вяртаюцца на свае землі; некаторыя працягваюць жыць у суседніх валасьцях, але карыстаюцца зямлёй у Бабруйскай воласьці, не плоцячы падаткаў. Гаспадар выдае загад дзяржаўцам не прынімаць сялян із іншых валасьцей і вышукваць падданых бабруйскіх[158]. Але "хітрыя звычаі" бабруян свайго роду таксама навіǹа, супраць яе ўрад уводзіць сваю навінỳ - забараняе пераходы. Гэты ўказ выдадзены з нагоды прыватнага здарэння (верагодна па прашэнню валашчан), не меў значных наступстваў. Гэта – адзін з камянёў таго прыгонніцкага будынку, пабудова якога была завершана значна пазьней. І такі камень не адзін. Падобны загад быў выдадзены па прашэнню магілёўскіх валашчан каля таго ж часу, у 1530 годзе. Вялікі князь даслаў свайго двараніна шукаць па ўсяму княству разыйшоўшыхся падданых Магілёўскай воласьці і "моцна выводзіць"[159]. Але,

---

[156]. У скарзе даннікаў Свіслацкай воласьці 1534 г. гаворыцца: як следства цяжкасьцей "некаторыя людзі з тое воласьці і месца нашага розна ся разышліся". Акты літ.-рус. дзярж., т. І, № 224. У Магілёўскай воласьці "многія ся людзі з тое воласьці прэч разышлі", - і Ibidem, № 235. Гаспадар Сігізмунд І даручае пісару Яну Гарнастаю выведаць цяжкасьці Магілёўскай воласьці: "Тэж каторыя людзі з тое воласьці нашае Магілёўскае з атчызн сваіх для абцяжання будуць ся разышлі да маёнткаў княскіх, і панскіх, і баярскіх і хацелі бы ся на тых атчызнах сваіх сесьці, і ты бы ім даў волі на колькі гадоў", Ibidem, № 206. У Караеўскай воласьці (каля 1530 г.): "А каторы муж пойдзе з простае зямлі Караеўскае, ён (намеснік) куніцы бярэ. То нам навіну ўчыніў", Ibidem, № 199. Гэтыя факты пераканаўча гавораць за тое, што даннікі лічылі сябе ў праве адыходзіць і нават у Караеўскай зямлі выходная куніца з "простай" (сялянскай?) лічылась навіной. Адыход данніка із горада гл. Ibidem, стр. 146. На прыканцы XVI ст. у Магілёўскай воласьці, ужо пасьля валочнай памеры, безперашкодны выхад дазваляўся на зіму, без выходнага; хто збягаў "неапавядаўшыся войту", той губляў "дамоўства" (значыць "апавядаўшыся" можна было адысьці). Хто зыходзіў за крыўдаю ўрадніка, то, пасьля разглядання справы рэвізорам, яму павінны былі быць вернуты пасевы і пабудовы. Відавочна, адыходзіўшых не пераследавалі і імкнуліся прывабіць іх зноў на зямлю. Арх. Зборнік Віл., І, стр. 193-194. Кваліфікацыі адыходу мы не кранаемся; меркаванні з гэтай нагоды пар. у Любаўскага, Абланы падзел і інш.

[157]. Гл. папярэднюю прыкмету.

[158]. Кн. Зап Літ., XV, лл. 172-174 (1538 г.). пар. тлумачэнне гэтай граматы ў праф. Леантовіча, Сялянскі двор, Часопіс Міністэрства Народнай Асветы, 1896 год. Лістапад, стр. 201.

[159]."Князем нашым і панам ваяводам і старастам, наместнікам і цівунам, княгіням і паням удовым. Баярам і дваранам нашым па атчызне нашай вялікаму князёўству Літоўскаму. Прыходзілі да мяне людзі нашы Магілёўскае воласьці і паведзілі перад намі, штож дэй многія людзі нашы магілёўцы з атчызн сваіх разышліся прэч і мешкаюць па месцах і дварах і маёнткам вашых. Іно мы для таго паслалі там двараніна нашага, а прато: дзе колвек ён тых дюдзей нашых найдзе, прыказуем вам, аж бы естэ яму іх выдавалі з усімі іх статкі, з чым будуць за каго зайшлі. Пакліж бы естэ тых людзей нашых яму выдаваці не хацелі, мы

калі мы параўнаем гэты ўказ з наказам дасланаму двараніну (Яну Гарнастаю), то справа бачыцца не такой безнадзейнай. Гарнастай павінен выведаць пра крыўды падданых ад пісарэй і падключчых, учыніць людзям "полечку" і шукаць разыйшоўшыхся падданых: калі



хто з іх апошніх *захоча* вярнуцца на свае атчызны, то Гарнастай павінен даваць ільготы[160]. Сказанага цалкам дастаткова для нашай мэты. Тая частка сялянства, якая вядома пад назвай даннікаў, мела права адыходу (бяспрэчна, абстаўленага некаторымі фармальнасьцямі). Урад з чыста фінансавымі мэтамі пачынае абмяжоўваць пераходы, па настаянню астатніх даннікаў воласьці; але гэтыя захады былі накіраваны не столькі супраць права адыходу, колькі супраць абыходжання фармальнасьцей апошняга, якія парушалі плацёжную здольнасць воласьці. Бяспрэчна, гэтыя захады рыхтавалі шлях да запрыгоньвання, але ў разглядаемы час не маглі яшчэ мець сур'ёзных практычных наступстваў.

Такім чынам, мы падышлі да таго, што даннікі мелі права адыходу. Калі гэта права абмяжоўвалася, калі даннікаў імкнуцца законна ці незаконна ўтрымаць, то патрэбна памятаць, што першая палавіна XVI ст. – час запрыгоньвання; імкнуцца ж і землеўласнікі гэтага часу абмежаваць пераходы вольных перахожых людзей, заключаючы паміж сабой пагадненні і інш.[161], а, між іншым, не можам жа мы сумнявацца ў існаванні права пераходу вольных людзей. Калі мы сустракаем перадачу даннікаў ад гаспадара да прыватных асоб, ці перадачу ў спадчыну, то так жа сама перадаюцца і вольныя перахожыя людзі, баяры путныя і інш.[162], права пераходу якіх не аспрэчваецца ні тагачаснымі крыніцамі, ні сучаснымі дасьледчыкамі. Далей, само разуменне перахожага чалавека паказвае толькі на адзін юрыдычны бок асобы селяніна, але не высвятляе яго павіннасьцевыя адносіны да зямлі і землеўладальніка. Перахожы чалавек мог стаць і наймітам і цяглецом, але мог быць і даннікам. Але калі ён возьмецца за цягла – ён бяспрэчна губляе права пераходу – гэта мы ведаем дакладна; сядаючы на даніну, куніцу ці чынш, ён, вегодна, не губляе права адыходу. Нельга таксама не звярнуць увагу на тое, што на гаспадарскіх землях нідзе не згадваюцца вольныя перахожыя людзі: старажытнейшыя інвентары, да валочнай памеры, ведаюць на гаспадарскіх землях толькі цяглых, данікаў



ці кунічнікаў, чэлядзь, бортнікаў і інш. спецыяльныя службы. Цяжка было б даказаць тое, што да нас выпадкова дайшлі менавіта тыя апісанні маёнткаў, дзе не было перахожых людзей, нават, напрыклад, у Аршанскай воласьці, дзе на чале даннікаў паказаны старац і ў воласьці, якая знаходзілася ў цэнтры тых

казалі таму двараніну нашаму тых усіх людзей нашых, дзе колвек нашэдшы, адталя моцно выдаваці і за ся на іх атчызнах асажваці. І вы бы таму двараніну нашаму праціўны не былі канечне, а бы то інак не было. Пісан у Кракаве", 14-ага жніўня 1530 г. Кн. Зап. Літ. XVII, л. 2 об.

160. Акты Літоўска-рускай дзяржавы, т. І, № 206.

161. А. П-З. Р., І, стр. 79. На Браслаўшчыну і Канеўшчыну ў палове XVI ст. вялікі князь дасылае, напрыклад, Яна Ваўчковіча для фармальнага прымацавання сялян.

162. Пар., напрыклад, дараванні Arch. ks. Sng. III, 96, 132 і інш.

самых Падняпроўскіх валасьцей, дзе так шмат было на гаспадарскіх землях даннікаў. Хутчэй можна ўявіць іншую магчымасць, што сяляне, якія маюць права пераходу, у апісаннях хаваюцца за іншымі тэрмінамі і менавіта пад тэрмінам даннікаў. Для землеўласніка, складаючага інвентар, важна было пазначыць сялян не згодна з іхнымі юрыдычнымі правамі, пра якія ён ахвотна хацеў бы забыцца, а згодна іхных павіннасьцевых адносін да яго.

Пытанне пра юрыдычную прыроду даннікаў некалькі выходзіць за межы нашага артыкулу. Тым больш пабочным для нас з'яўляецца такое складанае пытанне: чаму даннікаў і пры тым звязанных агульнымі інтарэсамі, мы сустракаем пераважна ва ўсходніх абласьцях. Мы сустракаем іх у мясцовасьцях былога Пінскага княства[163], на Жмудзі і Літве[164], на Валыні[165], у Наўгародзкім ваяводстве[166], на Падляшшы[167] і інш. Для нас відавочна, што даннікі, як вызначаная разнавіднасць земляробчага саслоўя, сустракаюцца паўсюдна ў літоўска-рускіх абласьцях. Але, у такім выпадку пытанне зводзіцца да таго, чаму ж менавіта сяляне ўсходніх абласьцей у нашых крыніцах выяўляюцца з моцным развітым пачуццём валасной салідарнасьці і ці не маем мы тут выпадковай з'явы: можа быць час захаваў да нас дакументы толькі адной мясцовасьці. Бясспрэчна, цяжка паручыцца за паўнату звестак, але кнігі гаспадарскай канцылярыі, якія захавалі нам гаспадарскія выракі і ўставы ўсходнім валасьцям, маюць агульнадзяржаўнае значэнне, пагэтаму ў іх павінны былі ўвайсці і дакументы іншых мясцовасьцей. Праявы валасной



салідарнасьці ўсходніх валасьцей – не выпадковасць; яны – вынік асаблівасьцей эканамічнага і палітычнага жыцця гэтых мясьцін, нарэшце, нават іхнага геаграфічнага становішча. Жыццё тут ладкавалася пры некалькі іншых абставінах, чым на захадзе. У заходніх і часткова паўднёва-заходніх абласьцях умовы жыцця складаліся так, што эканамічнае развіццё краю ішло больш хуткімі тэмпамі, чым на ўсходзе.

Адлучэнне горада ад зямлі тут пачалося з канца XIV ст.; на прыканцы XV ст. і пачатку XVI ст. тут ужо шырока распаўсюджваецца валочная памера; сотні гарадкоў і вёсак арганізаваны на магдэбургскім праве. Вялікакняжая гаспадарка будуецца па ўзору вялікіх маёнткаў, па ўзору якіх складалася сельска-гаспадарчая сістэма таго часу, а яна патрабавала вялікай колькасьці працоўных рук, якая не магла была быць задаволена рабскай працай. На пачатку XV ст. Літва і часткова Падляшша былі пакрыты гаспадарскімі дварамі, у якіх назапашвалася збожжа, напрацаванае прыгоннай і рабскай працай на вялікакняжых землях, ці звезеннае ў выглядзе дзякла. І гэтае збожжа знаходзіла для сябе попыт: шматлікі княжы двор знаходзіўся ў заходніх абласьцях, пераязджаючы са сталіцы ў

---

163. Рэвізія і інш., 65, 71, 102 і інш.

164. Акты Віл. Арх. Кам., XIV, 11; А. П-З. Р., I, 298; Акты Літоўска-рускай дзяржавы, т. II, стр. 116.

165. Арх. Паўднёва-Зах. Р., ч. VI, 8, I, стр. I,; Arch. ks. Sng. III, 78; пар. інвентар Ратненскага староства, у VII ч. 2 т. Арх. П-З. Р.

166. Акты Віл. Арх. Кам., XIII, 337.

167. Гл., напрыклад, Леантовіч, Акты, I, № 379, 384.

Польшчу і назад, зніўаючы на сваім шляху і ў сталіцы запасы. Рэшткі збожжа і іншых сельска-гаспадарчых прадуктаў знаходзілі сабе збыт зноў-такі на захадзе, дзе Нёман засяродзіў на сваіх водах збожжавы гандаль. Патрэбна мець на ўвазе, што гаспадар Літвы і Русі быў у той жа час і вялікім гандляром. Для яго не было ніякага разліку ладкаваць двары і збіраць збожжа ва ўсходніх абласьцях, дзе здабываўся больш каштоўны прадукт – мёд (узмоцнены выпаз збожжавых і лясных вырабаў, якія патрабавалі таксама працоўных рук, пачынаецца толькі к палавіне XVI ст.). Потым патрэбна мець на ўвазе, што і палітычная самастойнасць усходніх абласьцей доўжылася больш і пасля зліцця з Літвой гэтыя землі мелі больш правоў, чым на захадзе. Што да прыватнага землеўладання, то на захадзе заўважаецца асаблівасць, якая адсутнічае на ўсходзе і поўдні. Побач з невялікай колькасьцю дастаткова значных уладанняў, на якіх магло доўжыцца абшчыннае жыццё, - існуе масса дробнай шляхты, якая валодала некалькімі сялянскімі дварамі; сярэдзіны няма, а дробнае землеўладанне разбурала абшчыну.

Усе гэтыя беглыя заўвагі маюць на мэце паказаць на тое, што на захадзе было больш падстаў, якія вялі сялян да запрыгоньвання,



чым на ўсходзе. Але адрозненні развіцця эканамічнага жыцця не даюць падстаў думаць, што і ў заходніх абласьцях (ва ўсякім разе, рускіх) не была развітой абшчына, ў той ці іншай форме, ў больш ранні перыяд. Мы застаем валасную абшчыну на ўсходзе пад час яе агоніі. На захадзе мы бачым тыя ж рысы абшчыннага жыцця, хаця ўжо вельмі слаба заўважальныя. Нагадаем, што і тут мы сустракаем станы данікаў, на чале з іхнымі старцамі, агульныя добры, нарэшце, агульнасць эканамічных інтарэсаў. Усё гэта заўважаецца слабей чым на ўсходзе, але ж тут прыгонніцтва з'явілася раней і тыя ўмовы эканамічнага жыцця, якія паспелі тут на прыканцы XV ст. і пачатку XVI ст., на ўсходзе ўсталяваліся стагоддзем пазьней – на прыканцы XVI ст. і пачатку XVII ст.

На самай справе, калі звярнуцца да люстрацый усходніх абласьцей палавіны XVI ст., хаця такіх помнікаў да нас дайшло не вельмі шмат, то выявіцца, што гэтыя воласьці паўсюдна заселены даннікамі[168]. А, між іншым нельга такогаж сказаць пра заходнія вобласьці. У самай старажытнай люстрацыі Житоміра даннікі сядзяць сярод земляробчага насельніцтва іншых станаў[169]; у прыватных і нават гаспадарскіх маёнтках Палесся даннікі часам сядзяць па аднаму-два чалавекі сярод цяглага насельніцтва[170].

Карацей, той клас земляробчага насельніцтва, сярод якога на пачатку XVI ст. сустракаецца найбольш заўважальная абшчынная салідарнасць, клас даннікаў – вядомы паўсюдна ў літоўска-рускай дзяржаве. Гэты стан не новага паходжання, а старажытнага (у гэтым дачыненні ён адрозніваецца, верагодна,

[168]. Напрыклад, Гомельскае староства, у Актах Віл. Арх. Кам., т. XIII, стр. 343, Асьцёрскі замак, Архіў П-З. Р., ч. 7, т. I, стр. 597 наст., Мазырская і Бчыцкая воласьці, Ibidem,, стр. 624 і наст. Аршанскі замак у Актах Літоўска-рускай дзяржавы, т. II.

[169]. Архіў П-З. Р., ч. 7, т. II, стр. 11.

[170]. Рэвізія пушч і пераходаў звярыных, passim. Дарэчы, пар. люстрацыю Ратненскага староства, дзе элемент даннікаў пераважае, Архіў П-З. Р., ч. 7, т. II, стр. 275.

ад кунічнікаў і магчыма ад чыншавікоў). Яму паўсюдна была вядома абшчынная арганізацыя, але маламоцнасць яе праяў у заходніх абласьцях тлумачыцца больш інтэнсіўным тут ростам эканамічнага жыцця.

Наш артыкул не будзе вычэрпваць пытанне, калі мы не

-124-

дапоўнім яго звесткамі аб абшчыне на землях прыватных уласнікаў і аб праявах абшчыннага жыцця сярод іншых станаў цягляцоў. Праўда, стан вядомых нам крыніц не дазваляе вывучыць гэтыя два пытанні сколькі-небудзь глыбока. Але зробім, што магчыма.

Перш за ўсё ўзнікае думка: ці магчыма прыпісаць даннікам на прыватнаўласніцкай зямлі такую ж самую абшчынную арганізацыю, як і ў даннікаў гаспадарскіх. Цяжка адказаць на гэта пытанне станоўча, але ёсць прызнакі, якія схіляюць да такога адказу – бяспрэчна, у тым выпадку, калі даннікі складаюць цэлую вёску ці воласць на зямлі прыватнага ўласніка. Нельга, напрыклад, не звярнуць увагу на наступную абставіну. Воласць Радашкавічская належала Гоштальтам. Апісана воласць была ў 1549 годзе (з нагоды пераходу воласьці да вялікага князя, як вымарачнай). У ёй былі людзі розных станаў. Людзі цяглыя, кунічнікі, баброўнікі апісаны вельмі падрабязна: паказаны іхны інвентар, колькасць зямлі пад кожнай службай, памер падаткаў і павіннасьцей с кожнага. На чале цягляцоў і нават кунічнікаў у воласьці цівун і прыстава. Цалкам адасоблены ў гэмым спісе даннікі – яны складаюць воласць у воласьці. Яны палічаны па дымах, а не па службах, паказаны іхны інвентар і мядовая даніна з дыму. Вельмі цікава, што на іх узначальвае старац. Уся воласць даннікаў мае свой млын на рацэ Уша, які яны самі сабе зладзілі і на якім мелюць толькі яны. Сярод насельніцтва, увогуле дататкова заможнага, ёсць і такія, якія нічога не маюць, хаця і даюць мядовую данну. Аднак выяўляецца, што ў іх існуе, акрамя люстрацыйнага, сваё размеркаванне падаткаў, чаму і за ўбогіх бярэцца мядовая даніна. Іншыя падаткі зусім не распісаны па дымах: кунічныя пянезі, бабровыя, авёс, лён, белкі, ялавіцы, воск –даюцца ўсёй воласьцю. Гэта старыя падаткі, а новы падатак, прызначаны пані Гаштольтаваю, ураднік бярэ ўжо з дыму. Далей, воласць мае сваю царкву. Што да зямлі, то тыя самыя люстратары, якія дакладна падлічылі колькасць зямлі пад цяглымі службамі, у адносінах да даннікаў зрабілі інакш; яны паказалі агульную кольсць зямлі, якая належыць Радашкавічскім даннікам, - міля ўпоперак і тры мілі ўздоўж, адным кавалкам. Нельга думаць, што гэтыя даннікі не аралі, занімаючыся толькі пчалярствам: дастаткова вялікая колькасць сох, валоў і коней пры кожным дыме прама паказваюць

-125-

на тое, што мы маем справу з земляробамі[171]. Да зямлі, на якой сядзелі даннікі, рэвізоры аднесьліся не так уважліва, як да цяглай; гэта патрэбна адзначыць, але рабіць із гэтага вызначаныя высновы, пры адсутнасьці іншых звестак, - устрымаемся.

---

[171]. Акты Літоўска-рускай дзяржавы, т. I, стр. 90-119.

Возьмем іншы прыклад – прыватнаўласніцкі маёнтак Цітавяны у Літве. Цяглыя людзі у ім апісаны асобна ад двух вёсак даннікаў; пры кожнай службе цяглых пазначана колькасць падаткаў і павіннасьцей; пры данніках толькі іхны гаспадарчы інвентар. Мы не ведаем, хто ўзначальваў даннікаў, але цяглыя названы "цівунскімі", г. зн., імі кіраваў панскі цівун; даннікі ж плоцяць цівуншчыну – адкупленне ад цівуна. Далей, даніна з кожнай вёскі пазначана агульнай сумай; із 49 дымоў вёскі Гняздзілавічы выходзяць на сенажаць 7 чалавек: восенню – два чалавекі з'яўляюцца на двары з сякерамі. Усё гэта прадугледжвае размеркаванне падаткаў і павіннасьцей. Яно і было: "Каторая ж тая даніна, - кажа люстрацыя пасьля пазначэння агульнай яе сумы з вёскі, - із тое часткі, каму ся дастанецца, па асобну із оных даннікаў брана быці маець"[172]. Землеўласнік ведае толькі агульную суму падаткаў з вёскі, размеркаванне ж праводзіцца самой вёскай; але размеркавальны спіс, верагодна, паказваўся яму ці яго ўрадніку, таму што даніна збіралася асобна з кожнага гаспадара; зразумела, землеўласніку апошняе выгадна: ён атрымлівае пішчае "за даніну" і інш.

Такім чынам, абшчына даннікаў, так ці інакш апынуўшаяся на панскай зямлі, не адразу губляла свае асаблівасьці[173]. І калі чытаеш у загадзе віленскіх крылашан старцу іхнага маёнтка Каменіцкага пагрозы за невыкананне загадаў, то адчуваецца, што яны звяртаюцца не да свайго прыказніка, а да абшчыннага выбранніка, які знаходзіцца паміж двух агнёў – землеўладальнікам і сваімі абраннікамі[174].

-126-

Нам няма патрэбы падрабязна спыняцца на праявах абшчыннага жыцця сярод іншых станаў цягляцоў. Становішча парабкаў, цяглых даннікаў, дойлідаў, нават служак путных, было не такім, каб садзейнічаць той ці іншай форме абшчыннага жыцця. Гэтыя станы знаходзіліся ў значна большай асабістай залежнасьці ад сваіх уладальнікаў, не будучы такой згуртаванай массай насельніцтва, як даннікі, таму што парабкі, служкі, дойліды і інш. знаходзіліся ў невялікай колькасьці пры гаспадарчых ці панскіх дварах. Можна пазначыць толькі тое, што і сярод гэтых станаў сустракаюцца праявы абшчыннай арганізацыі, якія былі следствам іхных павіннасьцевых адносін. Путныя баяры часам усёй абшчынай абараняюць свае юрыдычныя правы, калі іхны наместнік цягне іх у цягла, парабкі, кабыльнікі сочаць за раўнамерным адбываннем

[172]. Акты Віленскай Арх. Камімісіі, XIV, стр. 11.

[173]. Юры Зяноўевіч, запісваючы даннікаў на Кіева-Пячэрскі манастыр, пазначае: "а вазіці тым людзям туюу даніну і тыя грошы самім да дому Прэчыстае, як і перад тым важывалі", А. З. Р. I, 105.

[174]. Віл. Археарг. Зборн., т. I, 133. Бяспрэчна, аднастайнасьці на панскіх землях чакаць нельга. Пар., напрыклад, інвентар Мядзельскай воласьці 1545 г.: на чале валасных людзей стаіць старац; па даніне, валасныя людзі Мядзеля – даннікі, але падзелены на службы, з вызначанай колькасьцю зямлі пры кожнай; яны ўжо адбываюць цягла па аднаму дню на тыдзень. Тым не менш, даннікі Мядзеля адрозніваюцца ад цяглых дваровых лыдзей на чале з цівунамі, Акты Літоўска-рускай дзяржавы, т. II, стр. 75. Пар. яшчэ цікавае апісанне Кераноенскага двара (маёнтак Гаштальтаў). Даннікі строга адмежаваны ад людзей цяглых і інш. Цяглыя людзі знаходзяцца пад прыставамі, парабкі пад цівунамі, даннікі – пад старцам. Зямля ў даннікаў "атчызная", даніна прызначаецца агульнай сумай. Арх. Збор. Віл., VII, стр. 15-17. Пар. Кйданы, Ibid., стр. 12-15.

агульных павіннасьцей тымі са сваіх суседзей, якія ўхіюцца ад іх[175] і інш. Крыніцы не даюць магчымасьці сказаць, ці хавалася

-127-

ў асяродку ніжэйшых станаў больш трывалая арганізацыя за гэтымі прымітыўнымі формамі абшчыннай салідарнасьці.

На гэтым мы скончым нашы заўвагі на конт гісторыі сялянскай абшчыны ў Заходняй Русіі. На заключэнне лічым не лішнім зрабіць кароткія высновы сказанаму.

У нашу задачу не ўваходзіць пытанне аб паходжанні заходне-рускай абшчыны. Апошняе пытанне, якое мае больш агульнае значэнне, не можа быць вырашана на аснове адных заходне-рускіх крыніц, у сілу іхнай недастатковасьці. Мы разглядалі абшчыну, якой яна стала к першай палове XVI ст. г. зн. якраз у такі час, калі ўмовы агульдзяржаўнага эканамічнага жыцця робяць яе вельмі заўважальнай у дзяржаве. Гэта адбывалася таму, што прыгонніцкія тэндэнцыі шляхты сутыкнуліся з такімі формамі сялянскага пабыту, якія знаходзіліся ў поўным супярэчанні са шляхецкімі апетытамі. Пад уладу мясцовага кіроўцы са шляхецкага стану трапляюць у выглядзе дзяржання ці арэнды гаспадарскія воласьці. Кіраванне разумеецца ў сэнсе збірання падаткаў, нажывы. Зразумела, што намеснік робіць усё, каб павялічыць прыбытковасць кіраемай ім воласьці. суды, уезды, стацыі і іншыя павіннасьці робяцца сродкамі вымаганняў. Але пакуль дзяржаўца стаіць адзін з цэлай абшчынай, яго дзейнасць сустракае процідзеянне з боку абшчыннай арганізацыі. Пазбавіцца такой перашкоды можна толькі шляхам разбурэння абшчыны, калі кожны працаўнік пастаўлены асобна да мясцовай улады. Да гэтага схіляюцца ўсе намаганні мясцовых устаноў і праца ідзе паспяхова, разбураючы абшчыну з яе старыной і ўставамі. Побач з гэтай асабістай барацьбой двух грамадзкіх станаў падзенню абшчыннага ладу дапамагае амяншэнне абшчыны праз вылучэнне із яе зямель у прыватнае ўладанне і вылучэння гораду із воласьці. Цэнтральны ўрад яшчэ ў 30-ых гадах выказвае дастаткова кансерватызму ў адносінах да воласьці, даказам чаго з'яўляецца шэраг устаў. Але не толькі ўплыў мясцовай адміністрацыі на цэнтральную, а ўвесь ход эканамічнага жыцця дзяржавы павінен быў прывесьці ўрад да неабходнасьці рэфармавання падаткавых дачыненняў воласьці. Разыходзячаяся, зменшанае ў колькасным плане дзякуючы дараванням, збяднелае насельніцтва не магло задаваліць, пры старой сістэме, павялічваючыся патрабаванні занепадаючага дзяржаўнага скарбу. Рэформа, у

[175]. Так у 1551 г. служкі путныя Полацкага павету распачалі справу супраць баяр і мяшчан полацкіх. Служкі скардзіліся на тое, што шляхцічы і мяшчане купляюць зямлю ў ішных патужнікаў служак і не адбываюць адпаведных павіннасьцей з набытай зямлі. Служкі спасылаліся на прывілей, дазваляючы ім купляць зямлю ў шляхты. Апошнія і мяшчане спасылаліся на земскі прывілей, згдна якому яны маюць права купляць зямлю ў путных людзей. Суд вызначыў, што земскі прывілей пераважае, таму што ён больш старажытны чым прывілей путным служкам. Але канчатковай выснове была нададзена такая фармуліроўка: мяшчане і шляхта могуць купляць у путных служак зямлю, але павінны адбываць з набытых зямель адпаведныя павіннасьці; у сваю чаргу, путныя служкі, якія набылі шляхецкую зямлю, адбываюць з апошняй шляхецкія павіннасьці. Кніга Судовых Спраў Літ., № XXIV , л. 121-122.

выглядзе валочнай памеры і попісу службаў, дзе не была праведзена першая, паставіла сяляніна адзін на адзін са скарбам. Гэтыя рэформы

-128-

даваршылі распадзенне абшчыны, падрыхтаванае папярэднім жыццём. На самай справе, на прыканцы XVI ст. праявы абшчыннага жыцця заміраюць.

Што да ўнутранага строю абшчыны, то нам няма патрэбы паўтараць тое, што было сказана з гэтай нагоды папярэдне. Абшчына мела свайго абранага кіраўніка, у вызначаных межах суд, мела агульную нерухомую маёмасць, мела свае ўласныя прыбыткі і выдаткі. Ва ўладанні абшчыны знаходзілся таксама сельскагаспадарчыя добры, а часам і ралля. Але ўлада абшчыны не распаўсюджвалася на зямлю, якая была вылучана кожнаму асабнаму дворышчу, хаця і ў дадзеным выпадку за абшчынай вызнавалася права на той ці іншы перадзел зямлі ў экстрэнных выпадках. Галоўная аснова ашчыны, такім чынам, адміністрацыйна-фінансавая арганізацыя. У падаткавым дачыненні абшчына уяўляла самастойную адзінку: яна карысталася правам размяркавання гаспадарскіх і часткова валасных падаткаў, хаця гэтае права і зазнавала абмежаванні з боку мясцовай адміністрацыі. Абшчынная арганізацыя пераважна заўважаецца ў асяродку так званых даннікаў. Апошні стан сялянства ў вывучаемы час амаль цалкам засяляе падняпроўскія воласьці, але ён вядомы паўсюдна на Заходняй Русі і Літве. У апошніх аболасьцях ён раней губляе абшчыннае ўладкаванне, як следства іншых эканамічных умоў жыцця гэтых мясцовасьцей.

М. Доўнар-Запольскі